
XII Мастацкія сустрэчы→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Фантастычныя фізікі→5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 50 (3161) Год LXI | Беласток, 11 снежня 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Што чуваць на Памор'і? Радыё Кашэбэ!

**Хаця кашубскае тэлебачанне ўпала, Радыё Кашэбэ на працягу дванаццаці гадоў дзейнасці мае ўсё больш і больш слухачоў. Мяркуецца, што на Кашубах (па-за Трыградам), пасля RMF FM і Radio Zet слухаюць менавіта яго. У Трыградзе Радыё Кашэбе апярэджвае толькі Радыё Гданьск.**




**АРТУР ЯБЛОНСКІ** — кашуб, нарадзіўся ў Пуцку. Выпускнік гісторыі ў Гданьскім універсітэце, аспірант літаратуры ў Паморскай акадэміі ў Слупску. Журналіст, былы рэдактар тэлепраграмы «Rodnô zemia» і былы галоўны рэдактар штомесячніка «Pomerania». Аўтар некалькіх турыстычных даведнікаў па Кашубах. Пісьменнік, аўтар трох раманаў на кашубскай мове. Пераможца празаічнага конкурсу імя Яна Джэджджона ў 2013 годзе. Заснавальнік і старшыня Радыё Кашэбэ.

**Cëż je czëc — Radio Kaszëbë —** што гэта абазначае?

— Гэта прыдуманы на самым пачатку слоган. „Cëż je czëc"? — у перакладзе значыць: што чуваць? Вядома, людзі, калі сустракаюцца, менавіта ставяць сабе такое пытанне. На Кашубах адказ на яго гучыць: Радыё Кашэбэ!

**— А дзе чуваць Радыё Кашэбэ? Які маеце абсяг і слухальнасць?**

— Слухальнасць у цэлым Паморскім ваяводстве, хаця трэба памятаць, што мы трапляем да паловы патэнцыйных слухачоў праз нашы чатыры перадатчыкі, гэта 4 адсоткі. Аднак у паасобных моцна кашубскіх раёнах, такіх як Касцяжына, Картузы ці Пуцк там бываюць кварталы, бо гэта лічыцца ў кварталах, дзе слухальнасць, дасягае нават 25 адсоткаў.

**— То многа. Чым прываблівaеце сваіх слухачоў?**

— Самыя папулярныя перадачы гэта такія, у якіх нашы слухачы могуць сябе віншаваць пры дапамозе эсэмэсак ці тэлефонаў. Хаця цяжка было іх асмеліць, каб гаварылі па-кашубску, але цяпер гэта атрымліваецца. Такія перадачы маем з 18 па 21 гадзіну і тады маем найбольшую слухальнасць. Таксама папулярныя з'яўляюцца навіны. Не такія як іншыя — мы падаем інфармацыі з меншых гарадкоў, гмін, вёсак. Туды даходзяць нашы журналісты. Хочам людзей інфармаваць аб гэтых нават не так значных падзеях на агульнапольскім фоне — гэта ім патрэбнае. Наша радыё вяшчае з 6 па 21 гадзіну. Маем штогадзінна навіны. Ноччу, ад 21 да 6 — падобна як у суботу і нядзелю, пускаем музыку. Маем такую сістэму, што праграму ўжывую транслюем з панядзелка па пятніцу. Калі б гаварыць аб мове, у нас гэта 50/50, але музыку пускаем розную. Стараемся прамаваць этнічную розных нацыянальнасцей, але таксама пускаем такую, якая проста цяпер «на топе».

**— У рэдакцыі працуюць самі кашубы?**

Кашубамі з'яўляюцца амаль усе. Ну, напэўна ўсе маюць вялікае сэрца для Кашуб. Калі ідзе пра веданне кашубскай мовы, ведае яе палова нашага калектыву. Між іншым таму Радыё надае праграму ў палове на польскай мове. Гэта перш за ўсё беручы пад увагу рынак рэкламы, але таксама маем на ўвазе той факт, што на Памор'і 20% гэта Кашубы — усе апошнія могуць не ведаць мовы.

**— У 50 працэнтах выкарыстоўваеце польскую мову, таксама можаце пускаць рэкламу. Як гэта выглядае з юрыдычнага боку, паколькі існуюце як кашубскае радыё і на гэта атрымліваеце грошы з міністэрства?**

Міністэрства фінансуе Радыё з 2006 года. На пачатку яно існавала дзякуючы нашым прыватным грошам. Сёння гэта 13% цэлага бюджэту радыё. Таму, каб утрымаць 21 асобу, якія ствараюць рэдакцыю, патрабуем рэкламадаўцаў. Нам удалося стварыць рынак рэкламы. Тое нам удалося і гэтым ганарымся, але адначасова мы памятаем, што ўсё гэта дзякуючы прадпрымальнікам з Кашуб. Бо што б тут не гаварыць, кашубы — прадпрымальныя людзі.







**— А ці падтрымлівае вас Маршалкоўская ўправа або лакальныя самаўрады?**

— Так. Сягаем па грошы з бюджэтаў самаўрадаў і гэта складае 10 адсоткаў нашага бюджэту. Гміны, паветы, у меншай ступені Маршалкоўская ўправа, але і там стараемся пісаць праекты і дастаўваць грошы. Напрыклад, Ваяводскі экалагічны фонд таксама прызначае нам грошы ў рамках праекта «Экапатруль Радыё Кашэбе». Маем перадачы, якія прамуюць адначасова нейкія фонды і атрымліваем за гэта грошы.

**— А падаткаплацельшчыкі могуць пералічваць вам 1% ад сваіх даходаў?**

— Уладальнікам ліцэнзіі на радыё з'яўляецца Таварыства Пуцкая зямля, таму можна ахвяраваць адзін адсотак падатку і перадаваць на нашу радыёстанцыю, але скажу шчыра — гэта невялікія грошы.

**— А які агульны кошт існавання Радыё?**

Ну, гэта немалы кошт. На год патрабуем 1 800 000 злотых.

**— Адыходзячы ад фінансавых пытанняў, Радыё Кашэбе — ініцыятар шматлікіх культурных падзей, напрыклад кашубскі «Ідал», дзе таленавітая моладзь можа прэзентаваць свае музычныя здольнасці. Можна сказаць, што ваша Радыё стварае такую кашубскую базу.**

— Вакол нашага радыё аб'ядноўваюцца канкрэтныя людзі. Яны вельмі ахвотна прыходзяць да нас у рэдакцыю не толькі каб узяць узнагароду за конкурс. Таксама хочуць пазнаёміцца з канкрэтным журналістам. Наша пажадальная перадача, а называецца яна «Гаспода Радыё Кашэбэ», калі яшчэ была робленая на мясцовасці, прыцягвала па 300 асоб. Пазней мы былі вымушаны гэта спыніць, але зусім нядаўна з гэтай думкай, каб нашы слухачы маглі сустракацца, мы адкрылі ў Вейгерове кавярню — яна называецца «Квеля»; па-польску гэта «miejscówka». Мы хочам, каб яна стала такой «плацкартай» для слухачоў Радыё Кашэбэ.

**— Разумею, што Радыё Кашэбэ мае сваю галоўную місію — фармаванне кашубскай свядомасці.**

— Важная тоеснасць і гэта таксама важнае для нашых слухачоў. Мы, вядома, не робім гэтага праз праграмы, у час якіх хтосьці сядзе і будзе гаварыць: «як добра быць кашубам». Не. Мы робім гэта праз музыку, лакальныя кашубскія інфармацыі, кабарэ, у канцы праз літаратуру... Хочам, каб кашубы маглі размаўляць на сваёй мове, адначасова будучы жыхарамі Памор'я.

**— Беларусы Падляшша маюць падобныя патрэбы! Чаго яшчэ жадаеце сабе і нам?**

— Усім слухачам Радыё Рацыя і чытачам «Нівы» жадаю, каб праз мову і культуру былі інтэгральнай цэласцю. Свет прыгожы, бо нас многа: народаў, адметных культур, моў. Кожны можа быць вялікі і магутны, але разам.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**


9 770546 196000



# Рабіў усё для Беларусі

У першы дзень зімы надзвычай цяжкага для Беларусі высакоснага году не стала вялікага Настаўніка Алеся Белакоза. Назаўтра Гарадзеншчына развіталася з цэлай эпохай беларускага Адраджэння, якую ўвасабляў гэты адзін чалавек. Карані Алеся Белакоза — з Беласточчыны, бацька яго быў на заробках у заакіянскай Бразіліі, а сам ён зрабіў вядомай і ўславіў ціхую, звычайную вёсачку Мастоўшчыны — Гудзевічы.

Гудзевічы сапраўды зрабіў знакамітымі адзін чалавек — Алесь Белакоз. Хоць гэтая вёска ў сучасным Мастоўскім раёне мае ў сваёй гісторыі цэлы шэраг іншых цікавых людзей. Музей літаратурнага краязнаўства заснаваны Белакозам быў у 1965 годзе. Менавіта тут паўстаў першы стэнд, прысвечаны вялікай паэтцы Ларысе Геніюш. Яна вучылася ў Гудзевічах у пачатковай школе ў 1919-1920 гадах. Пра тое, як збіраліся экспанаты, ходзяць цэлыя легенды. І яны — абсалютная праўда, якую мы даведваліся ад самога Белакоза. На якія дыпламатычныя хітрыкі і дасціпныя камбінацыі ён толькі не ішоў, каб здабыць тую ці іншую рэч, якая пазней займала належнае месца ў экспазіцыі і ашчадна зберагалася. Гудзеўскі (на варыянце Гудзеўскі, а не Гудзевіцкі, настойваў менавіта сам Белакоз) музей — сапраўдны асяродак беларускай тоеснасці, адлюстравання нашага мінулага. Музей — быў справай усяго яго жыцця, на якую настаўнік не шкадаваў ні сілы, ні здароўя, ні асабістых грошай.

Белакоз, які пачынаў у юнацтве як радыкальны маладзён, пазней абраў іншы кірунак дзейнасці і праз сваю далейшую музейную справу зрабіў уплыў на тысячы беларусаў, знайшоў культурны ключ, дзейсны шлях адбітку на свядомасці тых, хто ад вякоў імкнуўся „людзьмі звацца", але так і не даспеў да належнай грамадска-нацыянальнай супольнасці. Музей рос, шырыўся і прырастаў новымі экспанатамі. Створаны на грамадскіх пачатках пры школе, ён у 1990 годзе на золку суверэнітэту атрымаў статус дзяржаўнага. І атрымаў гэты знак якасці абсалютна заслужана за сваю адметнасць і зборы. Музей, які стварыў Белакоз, не пакідаў абыякавым нікога, як і сам яго дырэктар. Калі хто прыязджаў у Гудзевічы і паведамляў, што мае толькі паўгадзіны, Белакоз адразу наўпрост казаў „да пабачэння!", бо звычайныя яго экскурсіі доўжыліся тры-чатыры гадзіны — і гэты час пралятаў незаўважна для наведвальнікаў.

Музей і яго стваральнік зазналі нямала перашкод і выпрабаванняў. Людзі ў „плашчах кофейного цвета", як іх называў Алесь Мікалаевіч, праводзілі ўсялякія „прафілактычныя" гутаркі, сачылі за тэматыкай экспазіцыі і за самым дырэктарам. Але нават у савецкі час ніхто не дадумаўся спыняць аўтобусы, якія выехалі на экскурсію ў Гудзевічы. У найноўшы, у многім ганебны час, такое здарылася, што яшчэ раз падкрэслівае значнасць музея і яго стваральніка. Урэшце пенсіянера Белакоза цынічна выпіхнулі з пасады дырэктара, але значны час ён працягваў свае незабыўныя экскурсіі. Музей у Гудзевічах і Белакоз даўно сталі сінонімамі, альфай і амегай звычайнай па сутнасці вёскі, якая прыдбала вядомасць у агульнабеларускім маштабе. Зараз ён зазнаў мадэрнізацыю, але Белакоза, як жывога сімвала, ужо няма. З'явіўся, праўда, у першай зале невялікі бюсцік яго стваральніка. У час грамадзянскай паніхіды прафесар Аляксей Пяткевіч прапанаваў надаць музею імя яго заснавальніка, будзем спадзявацца, што гэта прапанова будзе аформлена дакументальна і ўрэшце зацверджана.

Жыццё біла гэтага чалавека вельмі жорстка. У раннім юнацтве ў час вайны ён страціў бацьку, які быў забіты ў час нападу партызанаў, а ўжо ў старасці — сына. Міхась Белакоз, таксама сапраўдны беларускі патрыёт, загінуў у самым росквіце сіл. Алесь Белакоз перажыў усё.

Алесь Белакоз не толькі стаў волатам беларускага Адраджэння. Ён ратаваў людзей не толькі духоўна, але і вынайшаў спосабы фізічнага лекавання і ўмацавання імунітэту. Пражыўшы пры свядомасці і актыўнасці 88 гадоў, ён на тры дзесяцігоддзі перайграў нават смерць. Цяжка прывесці дакладную статыстыку, але ведаю такіх людзей, якія, скарыстаўшыся методыкай Белакоза, здолелі перамагчы анкалогію, альбо навучыцца жыць з ёй. Рэцэпты народнай медыцыны, якія вынайшаў гэты чалавек, апісаныя ў кніжках, якія засталіся як і яго іншыя запаветы. Галоўным з якіх быў „Усё для Беларусі!".

Ёсць на свеце людзі, якія напоўніцу выконваюць сваю зямную місію. Падаецца, што Алесь Белакоз менавіта з гэтага шэрагу.

Светлая памяць!

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Учарашнія вуліцы



У Орлі налічваецца каля дваццаці вуліц, а назвы некаторых з іх з'яўляюцца крыніцай турбот і непрыемных сітуацый для жыхароў. Галоўная хваля перайменаванняў вуліц і вяртання да старых назваў ужо прайшла, але ў Орлі амаль усё засталося па-старому.

Некалькі гадоў таму я, як радны, па просьбе многіх зацікаўленых жыхароў намагаўся памяняць назвы некаторых вуліц. Без праблем, згодна з пажаданнямі жыхароў дайняй вуліцы генерала Сверчэўскага, удалося памяняць яе патрона на Генрыка Сянкевіча. Генерал адышоў, але засталася Чырвоная Армія. Чаму? Гэта заслуга колішняга гміннага сакратара, заўзятага камуніста, жыхара тае вуліцы, які склаў спісак неахвотных мяняць яе назву, але не з тае вуліцы, якой 90% хацела памяняць назву на новую — Звыцэнства, або даўнюю — Пасвентну, але з цэлай Орлі. Гэта дзіўнае, бо пра замену Сверчэўскага на Сянкевіча вырашалі жыхары адпаведнай вуліцы. З таго часу назва Чырвонай Арміі выклікае непрыемнае пачуццё няёмкасці і прыкрыя заўвагі з боку розных чыноўнікаў, нават дарожнай паліцыі і здзіўленне медыяў.

Я пацікавіўся, чаму некаторыя жыхары, асабліва старэйшыя, трымаліся старой назвы; вось:

— памылкова атоесамліваліся з савецкімі салдатамі, што яны таксама праваслаўныя;

— сентыментальна — некаторых продкі былі мабілізаваны ў Савецкую Армію;

— боязь перад усялякімі зменамі;

— у выніку фальшавання гісторыі: маладыя і „завалокі" не ведаюць, што тут 24 чэрвеня 1941 года з рук адступаючых чырвонаармейцаў загінула сямёра невіноўных жыхароў Орлі, у тым ліку сям'я з трох чалавек з жанчынай і хлопчыкам, якія перад забойствам былі катаваны (глядзі „Ніва" ад 13.09.2009: „Ваенны час у Орлі"). Трэба таксама памятаць пра пяць сем'яў, вывезеных на Сібір. Пры немцах не загінуў ніводзін мясцовы хрысціянін.

Тае назвы вуліцы, калі б не камуністычны строй, ніколі не павінна быць. І яшчэ адзін парадокс: на могілках ёсць магілы савецкіх салдат, прыдбаныя, на іх стаўляюць лампадкі, затое аб магілах памардаваных жыхароў Орлі ніхто не помніць і слухаць не хоча.

Пра дэкамунізацыю ў Орлі спытаў я войта Пятра Сэльвесюка на пасяджэнні самаўрадавай камісіі 25 лістапада г.г.

— Закон з красавіка ўступіў у сілу 2 верасня 2016 года. Гмінная рада мае год часу для прыняцця рашэння наконт змены назвы вуліцы Чырвонай Арміі, значыць да 1 верасня 2017 года. Ужо з'явілася паведамленні на дошцы аб'яў і на гмінным сайце, што чакаем прапаноў наконт новай назвы вуліцы. Паступіла адна заява, каб вярнуцца да старой назвы — Пасвентнай. Прапаноў чакаем да канца снежня. На пераломе лютагасакавіка буду сустракацца з жыхарамі ўсіх мясцовасцей, у тым ліку і Орлі, дзе будуць прымацца прапановы. Рашэнне будзе за Гміннай радай. Калі радныя не прымуць рашэння, то такое рашэнне прыме ваявода ў трохмесячны тэрмін.

Некаторыя заўважаюць, што ёсць вуліца 1 Мая, але гэта міжнароднае свята працы і няма патрэбы мяняць тую назву (у Орлі ёсць яшчэ вуліцы Вызвалення, Партызан — М. М.).

Пасля змены назвы можа паявіцца беспарадак, бо закон сцвярджае, што змена назвы на аснове гэтага закона не ўносіць абавязку змены дакументаў. Значыць, можа быць такая сітуацыя, што на вулічным паказальніку будзе назва, напрыклад, Пасвентна, а ў дакументах будзе Чырвонай Арміі.

* * *

Пры найбольшай арлянскай вуліцы Чырвонай Арміі (пры санацыі Пасвентна, а зараз людзі называюць яе вуліцай удавіц, бо жывуць па ёй галоўным чынам адзінокія жанчыны), пражывае 180 жыхароў (на дзень 31 снежня 2015 года). Мяркую, што па-новаму будзе так, як пры санацыі — Пасвентна; тады пры той вуліцы быў за сінагогай шырокі стары яўрэйскі кіркут. Хаця цяперашнім маладым колішняя назва не надта падабаецца, бо ім супадае са словам „Пасмертна"...

Міхал МІНЦЭВІЧ



Сваімі вачыма

# Сябры ніўскай сям'і

З нескрыванымі эмоцыямі спяшаў я на святкаванне шасцідзесяцігадовага юбілею нашага тыднёвіка. Не заўсёды бывае так, што ў нашым зямным, чалавечым жыцці дажываем да такіх гадоў. У выпадку газеты такі перыяд існавання трэба перамножыць у некалькі разоў, бо газеты, часопісы з такой гісторыяй ужо набіраюць сваю адпаведную вагу — вагу інтэлектуальную, вагу запісанага і ўбачанага, таго, чым жыла газета, калі выдавалася на фоне вялікіх гістарычных падзей. Гэта гістарычная памяць пра сваіх герояў, пра адметнасць беларушчыны Беласточчыны, а таксама пра ўсю беларускую культуру, літаратуру, гісторыю. І гэтая гістарычная памяць пастаянна ўсплывае на старонках «Нівы».

Калі зала беластоцкіх «Сподкаў» пачала запаўняцца сябрамі ніўскай сям'і, мне проста зрабілася радасна і лёгка на сэрцы і душы. Дазвольце ў гэтым месцы ад свайго імя і ўсёй рэдакцыі падзякаваць Вам за тое, што мы ўсе разам захацелі адзначыць так важную падзею ў жыцці беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і не менш важную ў гісторыі ўсяго беларускага народа. Дзякуем за ўсе дасланыя віншаванні і прывітанні ўсім тым, хто па розных прычынах не змог даехаць у гэты дзень у Беласток. Але думкамі яны былі ў гэты момант з намі — значыць, з «Нівай». Розныя пакаленні, людзі розных поглядаў — але ўсе выдатна разумеюць, што нам трэба надалей гуртавацца і аб'ядноўвацца вакол сваёй, уласнай беларускасці. Асабліва зараз у так неспрыяльны час для роднай мовы і культуры. Шмат вараджэнняў нашых (як часта паўтараў Мікола Гайдук), сапраўды чакае толькі таго, каб паслабіць і разварушыць фундаменты беларускасці ў Польшчы. А мы ўсе разам, насуперак штодзённым перашкодам, з горнасцю, культурнасцю і чалавечай сардэчнасцю адзначылі сваю прысутнасць на сваёй зямлі. Таму, калі размаўляў я з нашымі былымі журналістамі, супрацоўнікамі, карэспандэнтамі, сябрамі рэдакцыі на працягу ўсіх жа гэтых гадоў выдання, то пачуццё гонару, але і адказнасці за далейшы лёс «Нівы» было чуваць у кожным выказванні. Дзякуем Вам за гэта.

«Ніва» праз усе гэтыя гады была такім адкрытым, беларускім акном на свет — на свет Захаду і Усходу. Як мне распавядаў галоўны рэдактар «Нівы» Георгій Валкавыцкі, дык тыя лісты, што пісаліся, і тая літаратура ў форме газет і кніжак, што прыходзілі ў рэдакцыю з Захаду, былі пад асаблівым прыцэлам тагачаснай службы бяспекі. І раз на нейкі час у рэдакцыі з'яўляліся «сумныя» спадары з пытаннем, што за кантакты ў спадара Валкавыцкага з Захадам і хто яму піша. Дарэчы, пад такім жа прыцэлам, але савецкіх спецслужбаў, былі тыя, хто адтуль кантактаваў і перапісваўся з «Нівай». І людзі «Нівы», якія выязджалі ў Беларусь былі таксама пад наглядам савецкага КДБ. Вельмі канкрэтна і вобразна тую атмасферу апісваў Сакрат Яновіч. А на месцы пад вокам бяспекі і цэнзуры пэўнымі справамі і тэмамі займацца было немагчыма. Але калі гартаеш падшыўкі тыднёвіка, то аднак бачна, што на фоне агульнабеларускай мізэрнасці, у «ніўскай» спадчыне заўсёды можна знайсці цікавыя і непаўторныя матэрыялы. А ўсё дзякуючы людзям «Нівы» — яе ўсім аўтарам. Колькі непаўторных індывідуумаў, колькі беларускіх лёсаў звязаных было з нашай рэдакцыяй, хапіла паслухаць у папулярна-навуковай часткі сустрэчы. Ёсць што яшчэ адкрываць у нашым тыднёвіку, а навуковым установам рабіць карыснае навуцы і беларускаму асяроддзю. Мае першыя журналісцкія допісы трапілі ў рэдакцыю трыццаць гадоў таму назад, калі са студэнцкай «Прысутнасцю» з'явіліся мы на старонках газеты. І заўсёды ўсе беларускія дарогі прывядуць у «Ніву». А з другога боку — «Ніва» вывела і надалей вядзе ў беларускасць беларусаў Беласточчыны.

Напэўна з нашага боку ў падрыхтоўцы і ходзе мерапрыемства здараліся хібы. Таксама і ў журналісцкай працы не ўдаецца нам іх, на жаль, пазбегнуць. Таму выбачаемся і за ўсе рэдакцыйныя памылкі і за тыя праблемы, калі хтосьці адчуў сябе пакрыўджаным у ходзе сустрэчы.

Яўген ВАПА

# XII Мастацкія сустрэчы школьнікаў

**Падчас XII Мастацкіх сустрэч школьнікаў, якія 27 лістапада адбыліся ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, цікава запрэзентаваліся дашкольнікі, вучні падставовых школ і Гайнаўскага белліцэя. Сустрэчы арганізавалі Аб'яднанне Наша школа, якое дзейнічае пры Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы і Гайнаўскі белмузей, а дапамагалі ў час мерапрыемства вучні Гайнаўскага белліцэя.**

Вельмі вялікае ўражанне на публіцы, што запоўніла кіназалу белмузея, зрабілі дашкольнікі з калектыву «Калебка» Самаўрадавага прадшколля № 1 у Гайнаўцы, якія займальна паказалі абрад «Квашанне капусты». Ужо другі год дзетак з гэтага садка вучаць беларускай мове настаўніцы Міраслава Ніканчук і Ала Супрун, якія таксама апякуюцца калектывам «Калебка». Дзеткі раней навучыліся спяваць беларускія песні і развучылі народныя прымаўкі. Кіраўнік «Жэмэрвы» Анна Фіёнік і старшыня Музея малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік навучылі гайнаўскіх дзетак нашым народным танцам і гэтыя ўмеласці дзеткі выкарысталі падчас прэзентацыі абраду ў белмузеі. Дзеткі, размаўляючы на гутарковай мове, цікава паказалі, як калісь у нашых вёсках збіраліся ў групы, каб супольна шынкаваць капусту і заквашваць яе ў бочках. Яны займальна гаварылі нашы прымаўкі, запрэзентавалі народныя танцы і заспявалі па-беларуску.

— З абрадам «Квашанне капусты» мы выступілі падчас абрадавага агляду ў Дубічах-Царкоўных і, на жаль, не змаглі запрэзентаваць яго падчас цэнтральнага агляду ў Гайнаўскім доме культуры з-за хваробы нашых дзетак. Затое нашы дзеткі ўдала запрэзентавалі квашанне капусты тут, у Гайнаўскім белмузеі, і папрасілі нас паказаць гэты абрад сужонствам з Гайнаўкі, якія пражылі супольна 50 гадоў і будуць адзначаць свой юбілей, — стала распавядаць пасля выступу дашкольнікаў настаўніца Міраслава Ніканчук. — Мы вучым дзетак размаўляць на беларускай літаратурнай мове і на мясцовых гаворках. Калі я пісала сцэнарый для абраду «Квашанне капусты», рашыла, што дыялогі і прымаўкі будуць прэзентавацца так, як у нас гаворыцца ў наваколлі Гайнаўкі. Распытвала я сваю маму і іншыя асобы, як у нас шынкавалі і заквашвалі капусту, а рэквізіты, бочку, шаткаўніцу, дошку і іншыя прылады знайшла ў Гарадзіску, дзе жыву, і ў Храбустоўцы. Народныя касцюмы мы пашылі падчас рэалізацыі аднаго з нашых праектаў, а падрыхтавацца да выступу дапамагалі нам таксама бацькі. Спачатку нашы дзеткі запрэзентавалі, як у вялікай грамадзе квасілі капусту, а пасля паказалі, як моладзь у нашых вёсках весялілася пасля супольнай працы, спявала песні, жартавала і нават танцавала. Нам важна, каб нашы дзеткі знаёміліся з беларускай мовай і культурай, а таксама з нашымі абрадавымі традыцыямі. Мы рады, што ў гэтым годзе яшчэ пабольшала ў нашым садку колькасць навучэнцаў беларускай мовы і зараз вучацца па-беларуску ў дзвюх групах звыш сарака асоб.

— Мы рашыліся паказаць абрад «Квашанне капусты» і іншае, чаму навучыліся нашы дзеткі падчас заняткаў па беларускай мове. Важна, каб бацькі ўбачылі тое, чаму мы вучым дашкольнікаў і пагледзелі на ўмеласці сваіх дзетак, — заявіла другая настаўніца беларускай мовы з садка Ала Супрун, якая падчас выступу дашкольнікаў саставула ім акампанемент на акардэоне.

— Мы, як бацькі, вельмі рады, што нашы дзеткі вучацца роднай беларускай мове ўжо ў садку, знаёмяцца з нашымі абрадамі і іншымі традыцыямі. Сёння нашы дзеткі цудоўна выступілі і мы цешымся, што могуць яны паказацца перад публікай, — гаварыла Агнешка Кучко — мама дашкольніка Давіда.

Ініцыятарам і галоўным арганізатарам «Мастацкіх сустрэч школьнікаў» з'яўляецца настаўнік беларускай мовы ў белліцэі і белгімназіі Янка Карчэўскі, які з моманту стварэння Аб'яднання Наша школа стаў яго старшынёй. Удала вёў ён беларускае мерапрыемства і пасля займальнага выступу дашкольнікаў запрасіў перад публіку настаўнікаў беларускай мовы, якія падрыхтавалі дзетак і моладзь да выступаў з прадстаўленнямі, песнямі, танцамі і дэкламацыяй па-беларуску. Дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк уручыў настаўнікам фотаальбомы «Горад Гайнаўка». Выступоўцаў гайнаўскія белліцэісты запрашалі на пачастунак. Частка выступаючых засталася з бацькамі ў кіназале, каб паглядзець інсцэніроўкі і іншыя прэзентацыі па-беларуску. І варта было гэта зрабіць, бо дзеткі маглі павучыцца ад іншых, як трэба весці сябе на сцэне. Сярод публікі былі гайнаўскі бургамістр Ежы Сірак, дырэктар Самаўрадавага прадшколля № 1 у Гайнаўцы Ірэна Гапунік, дырэктар Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы Бажэна Маркевіч, яе намеснік Аліцыя Дзмітрук і намеснік дырэктара Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы Ніна Лукасік.



Вучні Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы



Вучні Пачатковай школы № 6 у Гайнаўцы



Дашкольнікі з калектыву «Калебка» Самаўрадавага прадшколля № 1 у Гайнаўцы

— Мы дванаццаты раз арганізуем Мастацкія сустрэчы школьнікаў. Гэта добрая нагода, каб вучні запрэзентавалі свае музычныя ўмеласці і акцёрскі талент перад сваімі бацькамі, бабулямі і гайнаўскай публікай. Выступы дзетак і моладзі — цікавыя, а мерапрыемства прыцягвае шмат людзей і таму трэба меркаваць, што яно падабаецца гайнавянам, — сказаў галоўны арганізатар сустрэч школьнікаў настаўнік Янка Карчэўскі.

Міхал Зайкоўскі з Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы займальна дэкламаваў верш «Якуб і зуб». Дапамаглі яму падрыхтавацца настаўніца беларускай мовы Аліна Якімюк і бацькі.

— Сын Міхал дэкламаваў па-беларуску ўжо ў садку. Вельмі хацеў вучыцца і таму пайшоў у школу ў шасцігадовым узросце. Мы хацелі, каб ён хадзіў на заняткі беларускай мовы, але бацькі не запісалі іншых першакласнікаў на вучобу па-беларуску. Нашаму Міхалу былі арганізаваны ў школе індывідуальны ток навучання, займаецца з нашым сынам настаўніца беларускай мовы Аліна Якімюк. Міхал вучыцца беларускай мове таксама з намі дома, — сказала Кацярына Зайкоўская, а бабуля Міхала, Вера Мартынюк дабавіла, што ўнук дэкламатарскія здольнасці праяўляе здаўна і вучыцца таксама гаварыць па-свойму.

Старэйшыя вучні настаўніцы Аліны Якімюк з класаў V«А» і VI«А» Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы займальна запрэзентавалі інсцэніроўку «З далёкага мінулага». З дапамогай сваёй настаўніцы і бацькоў падрыхтавалі яны рэквізіты, а ў тым ліку спецыяльныя ўборы да выступаў і, між іншым, рыцарскія даспехі. Інсцэніроўка, якая адбывалася на фоне беларускіх песень, закончылася выступам рыцара з выявы беларускага герба «Пагоня» і патрыятычным спевам на зважай, што было ўспрынята гарачымі апладысментамі.

— Заканчэнне нашай інсцэніроўкі з прэзентацыяй беларускага герба «Пагоня» і патрыятычным спевам павінна выклікаць рэфлексіі ў сабраных, — заявіла яшчэ перад выступам вучняў настаўніца Аліна Якімюк.

— Мы першы раз тут выступаем і хочам, каб усё атрымалася як найлепш. Мы пагледзелі таксама цікавыя выступы іншых вучняў, якія нам спадабаліся, — сказалі вучаніцы Юстына Кот і Магда Малашэўская з гайнаўскай «двойкі», а бацька Юстыны, Ян Кот, пахваліў выступы сваёй дачкі з сяброўкамі і ідэю арганізавання прэзентацый на роднай беларускай мове.

Вучні пятых класаў «А» і «Ц» Пачатковай школы № 6 у Гайнаўцы, якіх да выступаў рыхтавалі настаўніцы беларускай мовы Людміла Грыгарук і Беата Кендысь, захапілі публіку інсцэніроўкай «Прыйшлі Пакровы, ці да зімы гатовы?». Пераапранутыя ў вясковыя народныя ўборы вучні цікава запрэзентавалі адпачынак са спевамі і гульнямі падчас восеньскага святкавання Пакрова Божай Маці.

— Мы з вучнямі падрыхтавалі пакроўскі абрад у рамках урока гісторыі і культуры беларускай мовы. Выкарысталі восеньскія фрукты і агародніну, каб паказаць дары восені, а песні і танцы, якія вучні сёння запрэзентавалі, былі часткай святкаванняў на нашых вёсках, — сказалі настаўніцы беларускай мовы Людміла Грыгарук і Беата Кендысь, якіх вучні штогод прымаюць удзел у гайнаўскіх сустрэчах школьнікаў.

Цікава з беларускімі песнямі запрэзентаваліся вучні Школьна-прадшкольнага комплексу ў Белавежы з калектыву «Сунічкі», якім апякуецца тамашняя настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская, а якому акампанемент на акардэоне саставіў Марк Зубрыцкі з Белавежы.

— Нашы вучні любяць выступаць перад публікай і заспявалі тут песні, якія развучвалі ў розным часе, — сказала Анджаліна Масальская, таксама белмузейная бібліятэкарка, якая дапамагала арганізаваць сустрэчы вучняў у гайнаўскім музеі.

Зося Філіпюк з Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы, якую да выступаў падрыхтавала настаўніца беларускай мовы Марыя Крук, удала праспявала песні «Мама» і «Беларускі край». Гайнаўскі белліцэіст Яцак Дружба зацікавіў сабраных сваёй умелай ігрой на акардэоне, а Наталля Мусюк, вучаніца Гайнаўскага белліцэя і ўдзельніца тамашняга вакальнага калектыву «Знічка», займальна выступіла з беларускімі песнямі сола і ўдала завяршыла сустрэчы школьнікаў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Дэмаграфія Нурэцкай гміны

Нурэцкая гміна ў Сямятыцкім павеце займае плошчу ў 215 квадратных кіламетраў (гэта 15% тэрыторыі павета). Суседнія з ёю гміны: Чаромха, Мельнік, Мілейчычы і Сямятычы. Яна мяжуе з Беларуссю (за мяжой Росна Камянецкага раёна). Цераз тэрыторыю гміны прабягае чыгунка з Беластока ў Седльцы.

У Нурэцкай гміне 27 мясцовасцей (у тым ліку 24 салэцкіх), у якіх пражывае 4 226 чалавек. Жыхароў пакрысе меншае з году ў год. Зараз шчыльнасць насельніцтва — 19 асоб на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадаюць 102 жанчыны. Ва ўзросце 80-84 гадоў жанчын удвая больш чымсьці мужчын, а ва ўзросце 85 і больш гадоў — у тры разы. У гэтай гміне ля ўсходняй мяжы палавіну ўсёй яе плошчы займаюць сельскагаспадарчыя ўгоддзі ды 43% лясы. Дванаццаць вёсак значна аддаленых ад сядзібы гмінных улад у Нурцы-Станцы.

Да найбольшых вёсак належаць: Нурэц-Станцыя — яна налічвае 1 683 жыхары, Аўгустынка — 210, Залесе — 207, Клюковічы — 206, Жэрчычы — 200, Сяміхочы — 189, Машчона-Панская — 179, Вулька-Нурэцкая — 172, Тымянка — 145, Столбцы — 113, Сычы — 106 і Верпаль — 101.

Да сярэдніх можна залічыць вёскі: Нурэц — 95, Літвінавічы — 92, Барысоўшчына — 84, Вычулкі — 79, Заблоце — 73, Нурэц-Калёнія — 62, Нурчык — 52 і Сакуле — 50. Да самых малых належаць Анусін — 10 жыхароў, Вакулавічы — 11, Грабарка-Кляштар — 12, Пішчатка — 16, Шумілаўка — 20 і Грабарка — 25.

**(яц)**

## Безгаспадарная дарога

Снежань зрабіў сёлета сюрпрыз. Ужо ў пачатках месяца дарожная служба вымушана была расчышчаць дарогі і пасыпаць іх пяском з соллю. У Кузаве, напрыклад, не было з гэтым праблемы. Вуліца была акуратна расчышчана, а ў час галалёдзіцы курсіравалі машыны і раскідвалі пясок. Паклапаціласа пра гэта Павятовае праўленне публічных дарог. Але на кіламетравым прамежку з Кузавы ў суседнія Рэпчычы, і далей у Кляшчэлі (4 кіламетры) можна было ўжо шыю скруціць. Асфальтоўка не была расчышчана, адно пакрытая ледзяным насцілам. Гаварыў мне аб гэтым 1 снежня Міхась Андрасюк, якога я гасцяваў у сваім доме. Праязджаў я наступнага дня гэтай дарогай у Гайнаўку. Рухаліся мы быццам па люстры. Ані зерня пясочку. Адны калдобіны. Варта адзначыць, што дарога тут небяспечная. Ад вадаёма ў Кляшчэлі дарога надта вузенькая са шматлікімі крутымі паваротамі. Дзвюм машынам цяжка размінуцца. Малая няўвага і можна апынуцца ў прыдарожным рове. У летнім сезоне за парадкам на вадасховішчы наглядае Кляшчэлеўская гміна. Вядома, нейкі грош капне за паркоўку аўтамабіляў ці за білеты ўступу на вадаём. А ў мёртвым сезоне такога прыбытку няма. Ці гэта значыць, што гмінная дарога ў пасёлак Рэпчычы мае быць безгаспадарнай?

**(ус)**

# «Белавежа» — дачка «Нівы»

Каб не прапала слова! — пісаў у «Вірах — нататках рэдактара» Георгій Валкавыцкі — заснавальнік нашага тыднёвіка і арганізатар нашага літаратурнага руху. — «Слова мае аздараўляльную сілу», — казаў наш галоўны — выкшталцоны літаратар (пасміхаўся, паказваючы дыплом элітнага Літаратурнага інстытута імя Максіма Горкага ў Маскве, што ён па прафесіі адно „літаратурны работнік”) — працуючы ад рання да ночы над тэкстамі іншых і самой эдытарскай тэхнікай — сам сціпла хаваючыся ад псеўданімамі — Ювэ (Юры Валкавыцкі), Юрка Зубрыцкі і іншымі. Не казытала яму „зорная хвароба” на славутасць, смяшылі яго розныя меншыя і большыя, што пхаліся на афішу ці экран. „Я жыву так доўга, што ўсё памятаю!” — смяяўся. Вёў рэдакцыю 32 гады, у складаны час, незалежна, сумленна.

Пераглядаем старыя гадавыя падшыўкі „Нівы”. Бачым іх маладымі — перш за ўсё тых, каго так раптам пачаў нам забіраць час. Хто разам з Георгіем — збіральнікам талентаў засейваў нашу ніву. Валодзя Гайдук, Алена Анішэўская, Сакрат Яновіч, Мікалай Лук'янюк — з кагортві ніўскіх карэспандэнтаў і народных паэтаў. Патойбаковай ніве таксама трэба дасведчаныя аратыя і сейбіты...

Яўген Вапа, цяперашні галоўны рэдактар «Нівы», з пакалення дзяцей пушчанчатак нашай вершаванай публіцыстыкі, якая каментавала радасці, хібы і заганы нашай тут беларускай прысутнасці на Падляшшы і не толькі. У наступным нумары зноў на першай старонцы маем верш Міколы Засіма «Дачка Радзімы» і на трэцяй — адразу з прадстаўленнем постаці маладога паэта родам з Крушынян Петруся Макаля верш «У выпадку свята». І першы — нашага новага вершаскладальніка — Уладзіміра Сасіма — пра «Мароза-ваяку», верш не пра крэпкі мароз, а пра тое, як бюракраты дапусцілі тое, што народ мерзне. А побач гумару і сатыры на апошняй — тады восьмай старонцы — песня з нотамі на словы Максіма Багдановіча «Зорка Венера». Друкаваліся часта класічныя сатырычныя тэксты Кандрата Крапівы, як «Жаба ў каляіне»... Не трэба забывацца, што новы нумар рыхтаваўся ў нялёгкіх умовах найменш тры тыдні. Так што прысыланыя аўтарамі вершы сваё мусілі адлежаць. Але на кожны допіс у «Ніву» быў адказ ад галоўнага рэдактара, а допісы — і вершы таксама, трымаў ён у спецыяльных сховах, любуючыся асаблівa допісамі вершаванымі. Вядома, прыходзілася над імі працаваць, кладучы на лістах заўвагі алоўкам у руках «літаратурнага работніка». А пачалі прыходзіць вершы ад аўтараў, якія хаваліся і пад крыптанімамі, і падпісаныя так, што наюць чытачы, пра што я даведалася ў Юшкавым Грудзе, які досыць яшчэ малады чалавек з Ціванюкоў на мой від выпаліў усе страфы верша пра шкоднасць піцця гарэлкі, надрукаваны ў «Ніве» пару дзясяткаў гадоў таму. І заўсёды пад крамай ці пад злеўняй малака чытачы хвалілі новыя трапныя творы, якія прачыталі ў «Ніве» і дэкламавалі іх з памяці. А дасылалі іх таксама студэнты з Беларусі, для якіх «Ніва» стала роднай на дзесяцігоддзі, пачынаючы ад Ніла Гілевіча (які ў той час штудзіраваў і нават жыў у інтэрнаце з новым набыткам «Нівы» Мікалаем Гайдуком, што сціпла падпісваўся «Міка» і прысылаў свае вершы нясмела ад 1957 года). Ішлі ў «Ніву» і друкаваліся на яе старонках творы і наступнага пакалення аўтараў са згуртавання «Тутэйшыя», якія цяпер самі ўжо сталі класікамі.

Прыслаў першы верш Баршчэўскі, Аляксандр, але не той славуты, які толькі пасля яго стаў прысылаць свае неразборлівыя опусы, а яго дваюрадны брат. Таксама з Бандароў. Надрукаваўся ён ужо 8 красавіка 1956 года, у 6 нумары. Даказваючы, наколькі багатая ў таленты багонная зямля Міхалоўская і зарэчанская, калі глядзець з таго боку Нарвы. Дарэчы, гэтае багацце буяе і да гэтай пары, аб чым сведчыць жывы літаратурны рух у Міхалоўскай і Нараўчанскай гмінах, адкуль найбольш паэтаў прысылае свае творы ў сённяшнюю пару. А гэта ўжо спадкаемцы Уладзіміра Гайдука з Тарнопаля, што каля Семяноўкі. А з Міхалоўскай гміны паявіўся Андрэй Сошка. З Тапалянаў. І ён пад рознымі псеўданімамі запаланіў усе старонкі «Нівы», а нават стаў яе «штатным паэтам». Ён жа Вацік Асіповіч, у акулярах як з донцаў бутэлькі, сатырык і лірык. Мабыць, друкаваўся




скіх ніўцаў, казаў пра галоўнага «Зубрыцкага»: Гэта ён стварыў тыднёвік «Ніва», паказаў, што тыднёвік можа быць цікавы і карысны. А самае галоўнае — беларускае слова вывеў на шырокую прастору роднай мовы, прыгожага літаратурнага пісьменства.

На старонках грамадска-культурнага тыднёвіка, турбаванага цэнзурай і сваімі «праведнікамі», з вялікай радасцю ў той час бачыліся перш за ўсё вершы. Патрыятычныя, жартаўлівыя, улюблёныя чытачамі, і не заўжды імі «ўхваlёныя» — сучасна-мадэрныя (Яша Бурш і за ім маладзейшае пакаленне, пачынаючы з Надзеі Артымовіч). Пасля лірычныя спробы пачаткоўцаў у «Парнасіку», якіх творы пераходзяць на Літаратурную старонку, допісы маладога пакалення аўтараў з Беларусі — згуртаваных («Тутэйшыя») і сола з глыбінкі.

У нашым грамадска-культурным часопісе ад самага першага (а нават нулявога) нумара заўсёды паяўляўся хоць адзін верш. Трэба было аддаць таксама даніну часу — вось ужо ў нумары з 26 лютага 1956 года самы першы тэкст увогуле надрукаваны ў «Ніве» — гэта верш будучага народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча «Дружба», ды на трэцяй — Уладзіміра Маякоўскага ў перакладзе Петруся Броўкі, як прыхodзілася чытачам «расхінаць Марксавы тамы». Рыхтавалася ў 1956 годзе да заснавальніцкага з'езду Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Разам з вершамі — партрэты дэлегатаў з'езда. У першым нумары — 4 сакавіка 1956 года маем ужо ў большасці вершаваную старонку гумару і сатыры, улюбёную чытачоў цэлае паўстагоддзя, і верш ужо непалітычны, а лірычны Максіма Танка «Спакойнай ночы». Але ёсць на пятай старонцы верш пра І з'езд, які напісаў Мікалай Матэйчук: «З Гайнаўкі, Лукі, Гарадка, Белавежы, / з Відава, Катлоў і Семятыч / Адтуль, дзе гучыць беларуская мова / Прыбылі на з'езд дэлегаты...». Гэта паваt калектыўна цяжка было разабрацца, якое прозвішча ў аўтара. Як расчыталі, так і падпісалі, часам стварыўшы вельмі спраўны псеўданім. Гэтак было ў выпадку студэнта Аляксандра, які падпісаўся зігзагамі. У рэдакцыі расчыталі што ён усё-такі «Барскі», і застаўся ім на ўсё жыццё будучы прафесар і паэт Аляксандр Баршчэўскі родам з Бандароў Міхалоўскай гміны...

У сувязі з выданнем першага нумара «Нівы» прыйшло ў рэдакцыю шмат вершаў, у якіх аўтары выказвалі сваё задавальненне і шчыра віталі наш тыднёвік. Аж у чацвёртым нумары паказаўся верш «В. Л.». Ці гэта Вера Леўчук, паненка з Орлі? Неўзабаве стала яна рэдактаркай, а пасля і жонкай галоўнага, заваражыўшы сэрцы пару іншых калег. «Вітаю першы нумар «Нівы» Як многа ў іх маіх надзей! Чацвёртага сакавіка — дзень нараджэння «Нівы»! А як прыгожа свеціць сонца — То «Ніву» прывітаць вясна прыйшла (...) Мы, беларусы, грамадою / спалучым звонкі голас свой! І запяём жа, брат, з Табою / Падзяку партыі за тое, / Што добра нам жывецца, / Што «Ніва» выдаецца! // Ідзі ж Ты, «Ніва», у свет шырокі, / Людзям аб праўдзе гавары! / Ад самай раніцы да змроку / Ты радзь ім і вучы!». Падзяка партыі належалася, бо сапраўды ў яе вярхах падумалі і сталі выдаваць газеты нацменшасцей. Вершаў больш, здаецца, Вера не пісала, але засталася ў «Ніве» аж да свайго адыходу на пенсію, але ж музай, вядома, засталася.

А вершы, можна сказаць, запанавалі ў «Ніве» — займаючы пад вінькеткай, напісанай прыгожым курсівам (лагатып гэты маем да сёння) амаль цэлыя старонкі — як у 5 нумары — найважнейшыя нашы гімны — Які Купалы «Спадчына» і Канстанцыі Буйло «Люблю наш край старонку гэту». А чытачы вывучалі іх на памяць — ці магутны гімн, ці спраўны і вясёлы сатырычны вершык, ці аматарскі твор суседа, які так трапна ацаніў час і людзей. І дагэтуль тыя вершы памятаён і ў ваеннай «Новай дарозе», а тыя вершы так яму выбілі праз вочы спецслужбы пасля вайны. Стаў ён штатным паэтам — такога не было ні ў Польшчы, ні ва ўсім свеце, каб газета мела свайго паэта, які піша выключна вершы! «Пісаў ён у вершы «Я пяю!» пра «Песню чалавечую, маладую, вечную», пісаў і вершыкі смешныя, але калі запалілі ў Міхалове кнігі пісаныя кірыліцай, перастаў быць штатным паэтам і схаваўся працаваць у краму. А варты ён не аднаго зборніка. Ён жа і Корань, і аўтар вершыкаў да коміксу пра Агафона Абротку. Пра Першы з'езд у прыпеўках спраўна паведамляў: «Верасок (Рыбінскі) усіх здымаў, Юмо ўсіх нарысаваў, А Хмялеўскі ўсхвалываўся / Ды нічога не сказаў. // Сакратарка ўсё спісала. / Веры Леўчук не было. / Раніцай за матэрыялам / Выехала ў сяло. // Сакратар З'езд адчыняў, / а Галоўны зачыняў. / А я слухаў, прыглядаўся / І ў частушках запісаў». А як прыгожа ён пісаў у вершы «Зямля без мяжы» (святочны нумар 9 ад 29 красавіка 1956 г.): «Расплываюцца межы! Разрастаецца ніва — // Маладая, зялёная, за ўсё даражэй. // Мы працоўныя людзі хочам жыці шчасліва, // Нашы сэрцы злучае Мір-зямля без мяжы». І штотыдзень паяўляліся вершы Вацiка Асіповіча — «Гармонік іграе», «Скандал у Беластоку» (аўтар як Корань) пра Ігната, які «ехаў у Беласток прадаваці парасяткі», пра «Мацея Скарасея». Але ў «Ніве» знаходзілі сваё месца таксама вершы, між іншым, Змітрака Бядулі, і аўтараў, якія яшчэ або ўжо не друкаваліся ў Беларусі, па розных прычынах, паявіліся пасля таксама тэксты пра нашаніўскую пару, пра аўтараў, якія ў той час у Беларусі замоўчваліся. Таксама Ларысы Геніюш. У «Ніве» пра гэтыя тэмы стаў пісаць Мацей Канапацкі, наш татарын, які надаўна адзначыў свой дзевяностагадовы юбілей...

(працяг будзе)

**Міра ЛУКША**



# Сябры ў жыцці і сябры ў працы

**«Фільмавыя фантастычныя фізікі»** — гэта група моладзі з Гайнаўскага белліцэя, якая ў мінулым навучальным годзе перамагла ў агульнапольскім конкурсе «Зрабі стаўку на Сонца». Зараз яны рэалізуюць новы фільм. Размаўляем з Шымонам Ручынскім — кіраўніком групы ды яе членамі Аняй Несцярук і Аронам Марчуком.

**Наталля Васько: — У мінулым годзе вы перамаглі ў конкурсе «Зрабі стаўку на Сонца». Нядаўна ў Варшаве адбылося падвядзенне вынікаў гэтага конкурсу. Якія ў вас уражанні?**

**Аня**: — Там быў паказ нашага фільма. Вядома, мы ганарымся, што ацанілі належным чынам нашу працу, над якой працавалі мы некалькі месяцаў. У якасці прызоў наша школа атрымала тэлескоп, а мы — усякія тэхнічныя прылады. Але для нас важнае і тое, што мы атрымалі пасведчанні за дасягненні ў гэтым конкурсе.

**Наталля: — Ці ў школе зараз вас больш распазнаюць?**

**Шымон: —** Я не ведаю ці гэта можна назваць папулярнасцю, але калі мы пачыналі новы фільм, тады многа дзяўчат і хлопцаў прыйшло, каб нам дапамагчы ды зняцца ў фільме.

Яны ўжо ведалі пра нас, бачылі апошні фільм і хацелі прыняць удзел у новым праекце.

**Наталля: — Менавіта цешыць тое, што вы не седзіце ў адным месцы, а далей нешта робіце. Пра што будзе новы фільм?**

**Аня: —** Гайнаўская гарадская ўправа аб'явіла конкурс «Маладыя. Актыўныя. Эфектыўныя», у якім можна было атрымаць дафінансаванне да любога маладзевага праекта. Мы вырашылі здабыць абсталяванне для нашага школьнага кінематаграфічнага гуртка. Нам удалося атрымаць грошы, за якія мы ажыццявілі наш план. Мы падумалі, каб зрабіць нешта цікавае пры дапамозе новага абсталявання, у выніку чаго нарадзілася ідэя роліка пра нашу школу.

**Наталля: — Колькі цяпер вас — «Фільмавых фантастычных фізікаў»? Ведаю, што склад памяняўся ...**

**Шымон: —** У мінулым годзе нас было чацвёра. У гэтым годзе нас ужо 6 асоб — адна адышла і прыйшлі тры новыя [цяперашні склад групы: Шымон Ручынскі, Анна Несцярук, Арон Марчук, Юліта Рушук, Іга Келбашэўская і Габрыела Кот — Н. В.]. Я з'яўляюся кіраўніком групы, у нас у праекце кожны мае сваю задачу. Кожны робіць нешта іншае, а часам таксама дапамагае сябру. Я думаю, што нашы сябры хацелі з намі працаваць, таму што мы перамаглі ў апошнім конкурсе.

**Наталля: — Ролік пра школу? Многім можа здавацца такі выклік банальным. Ці ён будзе адрозніваецца ад іншых?**

**Аня: —** Мы хацелі б, каб гэты ролік выглядаў прафесійна. Хочам таксама паказаць тое, што найлепшае ў нашай школе. Мы стараліся, каб гэта не была звычайная прэзентацыя, таму раней мы распрацавалі сюжэт для нашага фільма. І такім чынам паявілася ідэя пра тайнага агента.

**Шымон: —** Тайнага агента прыслалі ў школу, ён заглядае ў класныя кабінеты і назірае як працуе школа. Можна сказаць, што гэта шпіёнскі фільм.

**Наталля : — У папярэднім фільме выступіў наш дырэктар школы. Ці гэтым разам таксама пабачым нейкага настаўніка? Яны ахвотна прымаюць удзел у фільмах?**

**Шымон: —** У гэтым фільме выступіць наш выхавацель Ян Карчэўскі. Пабачым у ім таксама спадарыню Бажэну Шакала-Ефімюк, нашага апекуна Дар'юша Мусюка ды настаўніцу Аліну Пліс. Праблемы былі толькі са спадарыняй Пліс, якая заўсёды гаварыла: «Як я буду выглядаць?! Я ж нефотагенічная!».

**Наталля: — У школе праз некалькі дзён адбываліся кастынгі. Адкуль ідэя, каб гэта менавіта так выглядала?**

**Аня: —** Мы хацелі, каб у праекце прымалі ўдзел сябры з-за нашай групы, каб выступіла як мага найбольш вучняў. Каб пазнаёміцца з умеласцямі ахвотных, мы наладзілі кастынг. Вядома, як на сапраўдны кастынг трэба было падрыхтаваць і прачытаць фрагмент сцэнарыя прапанаванага намі фільма.

**Шымон: —** Гэта быў фільм *Дванаццаць сярдзітых чалавек* з 1957 года. У гэтым фрагменце мы бачылі тую магчымасць, каб ацаніць здольнасці акцёраў, а было іх многа — 6 з гімназіі да 15 з ліцэя.

**Аня: —** Гімназісты, магчыма, пабаяліся. Для іх школа яшчэ адносна новая. Да канца яны яшчэ тут не ведаюць усяго і ўсіх.

**Шымон: —** Яны таксама не ведаюць і нас. Нашы аднагодкі ды крыху малодшыя ліцэісты ўжо нас добра ведаюць.

**Наталля: — Цяжка нешта рабіць у школе? Паяўляліся нейкія перашкоды ў час рэалізацыі фільма?**

**Аня: —** Вядома, што цяжка, таму што нам трэба звычайна быць на занятках. Калі ў нас восем урокаў, то на панадворку ўжо цёмна і тады нічога не зробіш. Таму мы прыходзілі ў школу таксама ў суботы.

**Наталля: — У цяперашнім часе ёсць так, што моладзь або сядзіць у школе і ад раніцы да вечара займаецца толькі навукай, або зусім нічога не робіць. Як вам удалося спалучыць школу і хобі?**



**Аня: —** У нас існуе пачуццё, што мы робім цікавыя рэчы, не трэба сядзець у адным месцы.

**Наталля: — Ці не прыходзяць хвіліны, калі вы хацелі б усё кінуць, адпачыць?**

**Шымон:** — Так!

**Аня: —** Часам трэба ўстаць у 6 гадзін раніцы, у суботу прыйсці ў школу — ужо шосты раз у тыдні, тады думаеш: «Божа, навошта мне гэта?». І табе хочацца толькі спаць. Але, калі ўжо ўдасца прыйсці і пачаць працу, тады вельмі прыемна.

**Наталля: — Адкуль у вас такое зацікаўленне фільмаваннем?**

**Аня: —** Ідэя найбольш выходзіць ад Шымона, гэта яго страсць.

**Шымон: —** Я займаюся фільмам ужо 9 гадоў. Цяпер хачу ім зацікавіць іншых. Я заўсёды рабіў анімацыі. Маёй марай быў фільм з акцёрамі, самому цяжка гэта зрабіць. Мне патрэбна ў гэтым дапамога сяброў.

**Наталля: — У вас спраўджваецца сцвярджэнне, што вы сябры ў жыцці і сябры ў працы. Можна прыемна правесці час і штосьці цікавага зрабіць?**

**Аня: —** Вядома, калі ты працуеш з людзьмі, тады лепш, калі ты з імі ў кантакце і калі можаш з імі правесці многа часу ...

**Арон: —** ... замнога, замнога...

**Наталля: — Здымкі да фільма амаль ужо гатовы. Цяпер застаўся працэс кінамантажу. Гэта цяжкі ці прыемны этап творчасці?**

**Шымон: —** Гэта даволі доўгі і складаны працэс, але я думаю, што працу над фільмам мы закончым тэрмінова. Увесь працэс фільмавання і цяжкі, і прыемны, для кожнага гэта абазначае нешта іншае.

**Арон: —** Я лічу, што кожны ведае, што гэта цяжкі працэс, але кожны таксама бачыць у гэтым карысці.

**Аня: —** Для мяне найлепшыя былі здымкі. Калі канчаецца такі дзень, тады ты адчуваеш задавальненне.

**Шымон:** — Не забывайма, што гэта таксама нейкая прыгода.

**Наталля: — Калі пра гэта, дык ці ў вас здараліся нейкія смешныя сітуацыі?**

**Аня: —** Напрыклад, калі мы фільмавалі сцэну ў кабінеце дырэктара, а яго не было!

Найперш гэту сцэну мы мелі запісваць толькі ў сакратарыяце, але мы паглядзелі і падумалі, што кабінет спадара дырэктара выглядае прыгажэй. Ціха, у суботу, мы туды ўвайшлі і запісалі што трэба.

**Наталля: — Калі і дзе можна будзе пабачыць ваш ролік?**

**Шымон: —** Мы плануем прэмеру на пачатак снежня. Дакладна тэрміну яшчэ не можам назваць. Усё залежыць ад працэсу кінамантажу. Ролік напэўна можна будзе пабачыць на нашым сайце [https://www.facebook.com/FantastyczniFizycyFilmowi/ — Н. В.].

**Наталля: — Заўсёды лепш і лягчэй жыць, калі ў жыцці ёсць нейкія мэты. А якія планы ў вас?**

**Арон: —** Цяпер нам належыцца адпачынак.

**Шымон: —** Я хацеў бы стварыць наступны фільм. Мы цяпер у другім класе ліцэя, у трэцім пэўна ў нас не будзе часу на штосьці такое. Таму ў гэтым навучальным годзе я планую зрэалізаваць яшчэ адзін фільм, але скажам пра гэта ў адпаведны час.

**Наталля: — Ці сваю будучыню звязваеце з фільмам? Ці гэта тое, што вы хочаце рабіць у дарослым жыцці?**

**Шымон: —** Я хацеў бы быць рэжысёрам, далей займацца стварэннем фільмаў. Не ведаю, ці ў кагосьці з нашай групы таксама такія планы.

**Аня: —** Я лічу, што ў маім выпадку гэта толькі хобі і цікавы занятак. Сваёй будучыні не звязваю з фільмам, але цешуся, што я магла прымаць удзел у гэтым усім, таму што гэта новы досвед.

**Наталля: — На каго яшчэ вы маглі разлічваць у час працы над праектам?**

**Аня: —** Вялікую дапамогу аказаў нам спадар Дар'юш Мусюк. Ён таксама прыходзіў у суботы ў школу, каб нам дапамагаць у працы. Клапаціўся, каб школа была адкрыта, арганізаваў нашы сустрэчы.

**Шымон: —** Ён пазычыў нам таксама свой фотаапарат, каб мы маглі запісваць. Вялікі дзякуй яму за гэта!

**Наталля: — А я дзякую і вам за размову!**

**Наталля ВАСЬКО,**
**II клас Гайнаўскага белліцэя**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

фота Міры ЛУКШЫ



# Брэсцкія ліцэісты ў Ніве

Калі брэсцкая моладзь ехала ў Беласток, не спадзявалася, што за мяжой сустрэне беларусаў. Прыехалі ў рамках рэвізіту да сяброў з Непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія. Здзіўленне, аднак, хутка перайшло ў большае зразуменне спецыфікі памежжа.

У рэдакцыі «Нівы» мы размаўлялі пра гістарычныя сувязі Беласточчыны і Палесся. Яшчэ да вайны моладзь ад Бельска, Сямятыч, Мельніка ехала на вучобу ў Брэст. Шмат заставалася там жыць і працаваць. Іншыя пераехалі жыць на Брэстчыну ў рамках пасляваеннай рэпатрыяцыі. Нас спалучаюць сямейныя сваяцтвы, сугучнасць у мове і краявідзе, любоў да роднай песні і фальклору.

З ліцэістамі Брэсцкага абласнога ліцэя імя Машэрава і іх настаўніцамі мы сустрэліся 25 лістапада, напярэдадні святкавання 60-годдзя «Нівы», таму візіт сяброў мы ўспрынялі як святочны падарунак. Аказалася, што можам на адных эмоцыях гаварыць пра Жыровічы, пра Ларысу Геніюш, пра сямейныя каштоўнасці. Менавіта падараваная нам песня «Пра мамін пірог» усім вельмі смакавала. Нашы госці атрымалі ў падарунку «Ніву», беларускія кніжкі і кубачкі для гарбаты. А пасля разам з Аляксеем Трубкіным, аўтарам праекта «Беларускі Беласток», наведалі сталіцу Падляшша.

**ЗОРКА**

## У ашуканца кароткі хвост!
*(казкі народаў Каўказа)*

Жылі два суседы. У аднаго была кабыла і не было воза, а ў другога быў адзін воз. Запрагалі яны каня ў воз і разам ехалі куды трэба: на рынак, у лес за дрывамі, у поле, па сена. Так праходзіла іх жыццё.

Аднойчы, у летні, спякотны дзень, паехалі яны па сена. Ад рання з неба ліўся жар і мучыла смага. Рашылі суседзі напіцца халоднай вады з рэчкі. Гаспадар каня пайшоў па ваду, а сусед застаўся чакаць ля воза. Аж тут нечаканасць — кабыла ажарабілася. Захацелася гаспадару воза мець свайго каня. Ён падумаў і выpашыў такое: «Скажу, што гэта ажарабіўся мой воз. Можа сусед аддасць мне гэтае жарабя».

Прывязаў ён жарабя да воза, сядзіць і песеньку спявае. Вярнуўся гаспадар кабылы, убачыў жарабятка, узняў рукі да неба і радасна заявіў:

— Вось як цудоўна, ажарабілася мая кабылка! Хутка мы з табой сусед будзем ездзіць на возе запрэжаным у пару коней.

— Ты памыляешся, дарагі сусед! — адказаў гаспадар воза. — Жарабятка нарадзілася ад майго воза, а не ад тваёй кабылы. Бачыш як яно верна стаіць ля майго воза і да тваёй кабылы не падыходзіць.

Доўга спрачаліся суседзі, ды і так нічога не прыдумалі. Рашылі яны схадзіць да ляснога суддзі звяроў. Гаспадар воза выбраў сабе ў адвакаты ліску, ён разлічваў на яе хітрасць і вынаходлівасць. А гаспадар воза папрасіў у абаронцы вожыка.

*(працяг будзе)*

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**

*Міра ЛУКША*

## Грэцкі арэх

*Хоць грэцкі ён з імя*
*але ўжо ж тутэйшы,*
*дасць рады і зімам,*
*нават наймацнейшым,*
*у зямлю ўрасце дужа*
*распрастае голле,*
*у марозныя сцюжы*
*спяе песню ў полі...*
*А сёмы год спелісты –*
*арэх зацвітае,*
*у лупінцы кудзелістай*
*ядро выспявае.*
*Арэшак у маршчынах,*
*са швом на паловах,*
*як мазговы звіліны*
*у нашых галовах!*
*І з паўтысячагоддзя*
*«разумных» арэхаў*
*цярпліва народзіць*
*арэх не ў спеху,*
*для смаку-спажывы,*
*для здароўя-сілы,*
*зялёна-шчаслівы,*
*карычнева-сівы.*
*У садку пасадзі ты*
*арэх на хрысціны.*
*Хтосьці мазгавіты*
*вырасце з дзяціны!*

## УВАГА КОНКУРС! № 50-16

**Што за беленькая мушка**
**Апусцілася на вушка,**
**ледзь чутно паказытала,**
**Штосці вушку пашаптала**
**І праз міг яе не стала.**
**С.......**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 18 снежня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 47: тэлефон. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Іаанна Ніціцюк, Міхал Вардэцкі з Бельска-Падляшскага, Кінга Леўша з Нараўкі, Мая Тапалянская, Аліўка Порац з Нарвы. Віншуем!**

# Дзве душы ў адным целе

Усе сябры, якія вывучаюць беларускую мову ў Гімназіі № 7 у Беластоку, пайшлі ва Універсітэцкі цэнтр культуры на спектакль «Ксеня».

Манадрама напамінае гісторыю Ксені Пецярбургскай, муж якой загінуў на вайне. Жанчына не магла гэтага зразумець. Для яе муж і жонка — дзе душы ў адным целе. Адна без другой не зможа жыць. Яна нават апранула ваенную форму свайго мужа і хадзіла па горадзе і казала, што «Ксеня памерла». Пастаноўка паказвае, як будучая святая кожнай раніцы перажывала вестку аб смерці каханага. Мы пабачылі на сцэне як пераплятаецца святасць і вар'яцтва. Акцёрка Іаанна Троц у ролі «Ксені» праявіла вялікі талент. Мы з сябрамі доўга гаварылі пра спектакль. Як складана іграць адначасова ролі некалькіх асоб!

Я і мае сябры пад вялікім уражаннем спектакля, нам спадабалася музыка, насычаная эмоцыямі і сцiпласць сцэнічнага афармлення.

**Клаўдзія Галінская,**
Гімназія № 7 у Беластоку

Вершы Віктара

# Шведа

## Я твой навечна

– Чаму ты Бронэк
Не сказаў нікому,
Што знайшоў пярсцёнак
Ля свайго дому?

– Дык мне прызнавацца –
Гэта недарэчнасць.
На ім жа ёсць надпіс:
„Я твой навечна”.

## Застрахаваны

– Дарагая матка, –
Дачушка гаворыць –
Далёка наш татка
Выплывае ў мора?

– Не журыся, Натка, –
Сказала нечакана, –
Даражэнькі татка
Ужо застрахаваны.

*Замкі і палацы Беларусі*

# КАСМІЧНЫ НАВАГРУДАК

Пра руіны Навагрудскага замка найфайней сказаў Уладзімір Караткевіч. Славуты пісьменнік прыкмеціў, што сваім выглядам яны напамінаюць зубы старажытнай пачвары, якая спачывае ў глыбі зямлі. Калі прыгледзецца гісторыі месца, назіранне можна лічыць гістарычнай метафарай. Пра значэнне і вялікасць замка найбольш могуць сказаць археолагі. Яны што і раз дабываюць з зямлі сярэдневяковыя скарбы, якія сведчаць пра кантакты Навагрудка з цэлым светам.

Навагрудскі замак лічыцца адным з найбольш знакамітых на тэрыторыі Беларусі. Яго пачалі ўзводзіць у XIII стагоддзі, аднак канчатковы выгляд набыў ажно праз тры стагоддзі.

Трэба памятаць, што Навагрудак праз пэўны час быў сталіцай Вялікага Княства Літоўскага.

У 1253 годзе на замку адбылася каранацыя князя Міндоўга, які атрымаў карону з рук папы Інакенція IV, а пасля аб'яднаў славянскія і балцкія плямёны. Замак цягам стагоддзяў быў штурмаваны крыжаносцамі, а пасля татарамі. Найбольшыя пашкоджанні атрымаў ён у час Паўночнай вайны (1700-1721).

Навагрудак найбольш праславіў Адам Міцкевіч. У інвакацыі да паэмы «Пан Тадэвуш» ён успамінае пра ікону, якая *яго дзіцяткам да жыцця павярнула цудам*. Тая ікона прыбыла з Візантыі і спачатку знаходзілася ў замкавай царкве. Пасля яе знішчэння ікону перанеслі ў Барыса-Глебскую царкву, што ў цэнтры горада. Менавіта там малілася маці будучага паэта за аздараўленне сынка.



З Навагрудкам звязаны лёс Барыса Кіта, беларуска-амерыканскага вучонага, вынаходцы ракетнага паліва для касмічнага карабля «Apollo», на якім першы чалавек паляцеў у 1969 годзе на Месяц.

**Зорка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 50-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 47:**
Ян, клад, Аксана, рот, кактус, то, крона, ар, ананас, трон, кніга, род, арол, канапа, Ада. Клуня, ток, парк, арда, акно, экран, на, тон, клунак, сасна, шар, Іра, нота, год, матор, Ала.

Узнагароды, даўгапісы «Piano», выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Мая Тапалянская** з Нарвы, **Аня Радзівончык** з Нараўкі, **Наталля Главацкая, Матэвуш Паўлоўскі, Дам'ян Іванюк з КШ № 3** у Гайнаўцы, **Віялета Смалюк** з Арэшкава, **Лукаш Анхім, Оля Кандратовіч** з Міхалова. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Grab | Usta / Rok | | | | Raj / Bór | | Polna droga do wypędzania bydła | Narzędzie | |
| Art | | | | Od / Bieg | | Sok pomidorowy | | | |
| | | | Buty / Boks | | | | | Wir | |
| | | Brzeg | | | | | | Mech | |
| Blog | | | | | Mama | | | | |
| | | | | | Anoda | | | | |
| Desant | | | | | | | Cha! | | |



WOJEWODA PODLASKI
*Bohdan Paszkowski*

Rada Programowa
Tygodnika Białorusinów
w Polsce „NIWA”

**List gratulacyjny**

[illegible]

WOJEWODA PODLASKI
Bohdan Paszkowski

Анатоль ПАРЭМБСКІ

## На шасцідзесяцігоддзе «Нівы»

Пяцьдзясят шосты, знаменная дата.
Дух беларускі свой голас падняў,
«Ніву» газету, як вялікае свята
Беларускаму люду ў рукі падаў.

А Ты нам была за ўрад, прэзідэнта,
Дзяцей навучала айчыну як зваць,
Як быць на роднай зямлі інтэндантам,
Пра мову і культуру народную дбаць.

Вялікае дзякуй стваральнікам «Нівы»,
Вечна Вам быць у беларускай душы.
Ваша моцная воля і нязломныя сілы
Дадалі беларусам да шчасця, красы.

А Табе, «Ніва», за вялікі высілак
Беларускаму люду за шэсцьдзясят год.
Найбольшага шчасця і хвіль болей мілых
Жадае з сэрца ўсяго беларускі народ.

**Валілы-Станцыя**
**лістапад 2016 год**

Спадар Яўген Вапа
галоўны рэдактар тыднёвіка «Ніва»
разам з супрацоўнікамі

**Паважаныя сябры!**

З нагоды 60-годдзя тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва» дзякуем усім пакаленням супрацоўнікаў і прыхільнікаў «Нівы» за іх магутную працу ў развіцці беларускага слова і беларускай ідэі.

Жадаем далейшых поспехаў так у прафесійным, як і ў сямейным жыцці.

*З пашанай*
**Дырэктар, настаўнікі і вучні**
**ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя**
**з беларускай мовай навучання**
**імя Браніслава Тарашкевіча**
**ў Бельску-Падляшскім**

26 лістапада 2016 года



ZARZĄD
WOJEWÓDZTWA PODLASKIEGO
Uchwałą Nr [illegible] z dnia 24.11.2016 r.
przyznaje
NIWIE
Tygodnikowi Białorusinów w Polsce
Odznakę Honorową
Województwa Podlaskiego
[illegible] podtrzymywania tradycji i [illegible] kultury białoruskiej mniejszości narodowej w Polsce
Białystok, dnia 24.11.2016

Віктар ШВЕД

## АКУРАТ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ

*Яўгену Вапу*
*і яго Супрацоўнікам*

Мая падзяка для Нябёс,
Што сёння сапраўды шчаслівы,
Калі я спалучыў свой лёс
З беларускай роднай „Нівай”.

Мне „Ніва” заўжды па душы,
І дарагая, і святая.
Сэрца падказвае: пішы,
Пішу, пішу я, не змаўкаю.

„Ніва” ўжо шэсцьдзесят гадоў
Ва ўмовах польскасці трывае,
І сваіх верных чытачоў
Родным словам узбагачае.

А да сваіх апошніх дзён
Валкавыцкі, Гайдук, Яновіч,
У „Ніве” спелілі свой плён,
Вялікі ўклад усебаковы.

А сёння „Ніва” у руках
Маладога пакалення.
Няхай жа плённым будзе шлях,
Квітнее творчае натхненне!

**Беласток,**
**4 сакавіка 2016 года.**

*„Таго народа ўжо няма... Але!*
*Але ён здолее паўстаць нанова,*
*Калі ў душы ягонай на чале*
*Усіх святых парывах стане МОВА!»*
***Ніл Гілевіч***

## З нагоды 60-годдзя тыднёвіка «Ніва»

Шчырыя віншаванні рэдакцыйнаму калектыву і супрацоўнікам перадаюць сябры з Аб'яднання беларускіх журналістаў у РП ды рэдакцыі штомесячніка «Часопіс».

**Беласток, 26 лістапада 2016 г.**



**Rada Programowa**
**Tygodnika Białorusinów w Polsce „Niwa”**

Szanowni Państwo, z okazji 60-lecia tygodnika „Niwa” pragnę przekazać wszystkim pracownikom redakcji wyrazy uznania oraz serdeczne gratulacje.

Okrągła rocznica to także czas refleksji i podsumowań. Dzisiejszy 60. Jubileusz przypomina o ważnej roli, jaką redakcja „Niwy” odgrywa od ponad pół wieku — o roli niezależnego medium, wyjaśniającego istotę zachodzących zmian w otaczającym nas świecie, pielęgnującego poczucie tożsamości narodowej, podkreślającego znaczenie wspólnoty w życiu człowieka, a którego orężem jest wolność słowa.

Przez ostatnie 60 lat redakcja „Niwy” towarzyszyła kolejnym pokoleniom Czytelników, wychowując ich w duchu szacunku do swojego pochodzenia, pielęgnowała poczucie tożsamości narodowej i przywiązanie do tradycji, jednocześnie nie zapominając o swojej informacyjnej roli. Oby historia tygodnika trwała jak najdłużej, a misja, którą wypełnia, doczekała się kolejnych pięknych jubileuszy.

Redakcji „Niwy” w imieniu własnym oraz Zarządu Powiatu Hajnowskiego życzę kolejnych sukcesów i satysfakcji z wykonywanej pracy. Niech ostatnie 60 lat przywołuje również uczucie dumy płynące z poczucia dobrze wykonanych obowiązków. Niechaj umiejętne portretowanie codzienności mniejszości białoruskiej na zawsze pozostanie niwą redakcji.

**Starosta Hajnowski**
**Mirosław Romaniuk**
**Hajnówka, dn. 26 listopada 2016 r.**



ZESPÓŁ SZKÓŁ Z DODATKOWĄ NAUKĄ JĘZYKA BIAŁORUSKIEGO
17-200 Hajnówka ul. Marszałka Józefa Piłsudskiego 3
tel. (85) 682 24 96 fax (85) 682 43 88

Сябры з «Нівы»!

У дзень юбілею, у Вашае свята
Жадаем здароўя і шчасця багата,
Каб вам хапіла сонца і дабра,
Каб дзень не прыносіў ніякага зла,
Каб бадзёрасць Вас не пакідала,
А ліхое каб у дзверы не трапляла.
Няхай будзе хлеб і ранкам – кава,
Няхай будзе час для Вас ласкавым.
Пішыце многа і заўсёды цікава,
Таму што гэта супольная справа.

Дырэктар, вучні і настаўнікі
Гімназіі і Ліцэя з дадатковым
навучаннем беларускай мовы
ў Гайнаўцы

# Па шырокім памежжы

Злажу з поезда на прыпынку Лапы-Осэ, кіруюся ў напрамку Саколаў. Дарога спачатку, у прынцыпе, асфальтавая, але ў вёсках брук, побач якога абочына моцна вытаптаная дабыткам; пазней дарога выпраўляецца.

У Саколы завітваю невыпадкова — гэта ж частка агульнага памежжа між Усходам і Захадам. А памежжа гэта не тоненькая лінія, толькі шырокая паласа, фармаваная стагоддзямі. Яно як шво, дзе нітка пратыкаецца то на адзін, то на другі бок. І менавіта ў Саколах ёсць такая нітачка — гэта могільнікавая капліца. Гэта колішняя тыкоцінская царква, якая ў Саколы прывандравала ў 1833 годзе, калі Тыкоцінскі ўніяцкі прыход расплыўся ў каталіцтве. Будоўля выглядае даволі імпазантна, высіцца над саколаўскімі могілкамі як ветразь над яхтай; асабліва ўражвае завяршаючая дах квяцістая сігнатурка барочнага дызайну. І хто ведае, ці ў ёй, у капліцы, не спыніліся анёлы-ахоўнікі, якія раней ахоўвалі пакладзеных навокал нябожчыкаў. Ці не прыселі яны на нейкай градачцы, чакаючы Страшнага суда, які, магчыма, можа і іх абвінаваціць у занядбоўванні апекі над даручанымі ім грэшнікамі...

*Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* пісаў пра Саколы, што гэта „**osada miejska, dawniej miasteczko, leży śród płaskowzgórza. Posiada kościół parafialny drewniany, synagogę, szkołę początkową, dom przytułku dla ubogich, urząd gminny, 4 wiatraki, 94 domy, 1909 mieszkańców...**”. Калі супаставіць гэтыя лікі, то акажацца, што ў адной хаце пражывала тады ў сярэднім звыш дванццаці душ. І далей: „**Powstanie swe zawdzięcza ta mieścina niewątpliwie swemu położeniu w punkcie przecięcia się dróg idących od południa do Tykocina i od zachodu z Łomży i Ostrołęki na Podlasie. Dokoła osady ciągną się wsi drobnej szlachty, która tu ma swe targowisko. Dawniejsze geografie, słowniki geograficzne i Encyklopedye milczą o tej osadzie**”. Зараз Саколы з'яўляюцца таксама гандлёвым цэнтрам — тут шмат розных крамаў, банкаў, нават рэдкі сёння ў большых мясцовасцях газетны кіёск. Над мястэчкам дамінуе багата арнаментаваны гатычны касцёл. Усё раней напісанае пацвярджае гмінны сайт: „**Najstarszym zabytkiem jest drewniany kościół cmentarny, pochodzący z 1655 r. Jest to dawna, barokowa cerkiew unicka Bazylianów z Tykocina, przeniesiona w 1833 r. Dominującą budowlą naszej miejscowości jest piękny kościół, wybudowany w stylu neogotyckim w latach 1906-1912. Jego urok można podziwiać również nocą...**”.

З Саколаў падаюся далей на захад, бо ж памежжа наша крыху шырэйшае чым выбарчыя прэферэнцыі навакольнага электарату. Хаця я вандрую шмат па нашым наваколлі, аднак не ўсе тайны ўдалося спазнаць. Нейкі час таму, стоячы ў чарзе перад беластоцкай аўтобуснай касай, пачуў я, што чалавек, які стаяў перада мною, папрасіў білет у Старую Русь. Дзе ж яна? — здзівіўся я. А мясцовасць тая менавіта за Саколамі, у напрамку Высокага-Мазавецкага. Дык шпару я туды па беластоцка-высокамазавецкай шашы. А Старая Русь гэта не такая зноў звычайная Русь; Вікіпедыя: „**Wieś wymieniona w dokumentach sądowych Ziemi bielskiej z roku 1471. W czasie popisu rycerstwa Ziemi bielskiej z 1528 r. wzmiankowano 5 rycerzy z miejscowości Sokoły Ruś. Nazwa ta może wskazywać na ruskich założycieli tej wsi...**”. Але гэта яшчэ не ўсё: „**Jaruzelscy, herbu Ślepowron wzmiankowani w tej okolicy na przełomie XVIII i XIX w. Wojciech Jaruzelski, stolnik bielski, posiadał dobra Mazury. Wnukiem Wojciecha był Antoni Józef Jaruzelski, żyjący w pierwszej połowie XIX w., który również miał syna Wojciecha, powstańca styczniowego. Po powrocie z zesłania ożenił się z Heleną Filikowską, osiadł w Rusi Starej i dochował się ośmiorga dzieci. Majątek Wojciecha nie był zbyt duży. Siódmym dzieckiem Wojciecha (powstańca styczniowego) był Władysław Mieczysław, który ożenił się w Trzecinach z córką Hipolita Zaremby. Ich dzieckiem był urodzony w Kurowie, Wojciech Jaruzelski, prezydent Polski...**”. Пра памежжа можа сведчыць і назва наступнай, за Старой Руссю, у напрамку Высокага-Мазавецкага, мясцовасці — Мазуры. У цэнтры Старой Русі, побач скрыжавання з дарогай у напрамку Новых Пякутаў, могілкі нямецкіх жаўнераў перыяду Першай сусветнай вайны — менавіта там адбываліся жорсткія баі ў палове жніўня 1915 года, гэта яны, тыя страшныя баі, выштурхнулі наша насельніцтва ў пакутнае бежанства...




Фрагмент мемарыяла ў Стрыкоўскім лесе



Капліца ў Саколах

Са Старой Русі падаюся менавіта ў напрамку Новых Пякутаў. Па дарозе мясцовасць Яблань-Касцельная. Згадваю пра гэтую мясцовасць толькі таму, бо падляшскі гісторык Збігнеў Раманюк так згадваў пра яе ў гміннай манаграфіі: „**W 1921 roku w Jabłoni Kościelnej w 46 domach mieszkało 235 osób (104 mężczyzn i 131 kobiet). Według wyznawanej religii: 182 katolików, jedna osoba prawosławna (Białorusin) i 52 wyznawców mojżeszowych**”. У вельмі вясковай Яблані задзівіла мяне прысутнасць дзвюх крам агульнапольскіх гандлёвых сетак: „Левіятана” і „Хортэна”. Дарэчы — тут жа цэнтр парафіі; цяперашні тамашні касцёл узведзены ў 1860-х гадах, пасля пажару ранейшага. У той жа час побач вёскі была пракладзена варшаўска-пецярбургская чыгуначная лінія...

Новыя Пякуты гэта найдалей на ўсход распаложаная гміна Высокамазавецкага павета; у межах гэтай гміны не толькі толькі што згаданая Яблань, але таксама больш вядомае ў нас Гадышэва. Цікавінка пра самыя Пякуты. Што па нашых землях ездзілі манархі Рэчы Паспалітай хіба нікога не павінна здзіўляць. Таксама гасцяванне шведскіх і расійскіх уладароў, у іх ліку Карла XII, Пятра I, Аляксандра I і Мікалая I — апошняга яшчэ царэвічам. Пра пабыўку Напалеона Банапарта ходзяць легенды, але ў сапраўднасці ў нашым староннi пабываў яго сучаснік — тадышні намінальны французскі кароль Людвік XVIII — брат засечанага на гільяціне Людвіка XVI. Менавіта ў 1798 годзе ўцякаў ён з ахопленага якабінцамі Парыжа ў Варшаву, Гродна і далей; нейкі час гасцяваў у беластоцкім палацы Браніцкіх. І з Варшавы ў Беласток ехаў цераз Пякуты, дзе спыніўся на начлег у мясцовай карчме. Акурат быў дзень кірмашу і ў тую карчму завітала мясцовая шляхта, але даведаўшыся, хто гасцюе ў іх, саступіла месца высокаму госцю... Людвік XVIII уступіў на французскі трон пасля звяржэння Напалеона і панаваў у 1814-1824 гадах з кароткім перарывам, калі Напалеон вярнуўся на нейкі час з першай ссылкі.

У Гадышэве парафіяльнае свята — Маткі Боскай Зельнай. Спыняюся на момант, прапаведнік расказвае евангельскую прытчу пра сейбіта і плён. Здаецца, што вернікаў мала, але з другога боку касцёла аўтастаянка запоўненая. А стагоддзямі і дзесяцігоддзямі раней збіраліся там на *одпусты* дзясяткі тысяч народу з вельмі шырокага наваколля...

З Гадышэва напраўляюся ў Глннік, а адтуль у Зані. Як жа інакш выглядае гэтая вёска ў параўнанні з раней пабачанымі. Тут, у Занях, сумна-сумненька, быццам нехта адключыў жыццядайнае святло, быццам вёсцы наканавана нейкага роду цемра. Тут не відаць будучыні, не відаць ніякага ўздыму, тут усё дажывае свой век. Удар, нанесены яе насельніцтву семдзесят гадоў таму раз'юшанымі падпольнікамі не загаіўся і зеўрае балючай ранай. На вуліцы вельмі пажылая жанчына, расказвае мне сваю біяграфію, але не ўсю, бо дзеля апісання таго трагічнага эпізоду вясковай мінуўшчыны няма слоў — настолькі ён пачварны, што не падыходзіць для яго ніякая цывілізаваная лексіка. Сын жанчыны ў Бельску, унукі — у Варшаве і Лондане...

Малешы выглядаюць можа крыху лепш, але яны таксама пікіруюць уніз. Дваццаць гадоў таму кіпела жыццё вакол тамашняй крамы. Зараз будынак крамы пусты, суседні будынак былой вясковай святліцы развалены нейкай маладой выбуховай энергіяй. З другога боку вуліцы салідная мураванка былой школы; былі наконт яе нейкія прыватніцкія планы, але звонку не відаць, каб там здзяйсняліся нейкія людскія задумы, затое навокал адпачывае стомленая летнім уздымам прырода...

З Малешаў напраўляюся ў напрамку Стрыкоў. Калісь-калісь было мне ўдалося трапіць адтуль, значыць з Малешаў, у Стрыкі. Але сёлета нешта не спрацавала — лясная дарога, у якую я падаўся, стала дзіўна чэзнуць і ў нейкі момант нават завітала да мяне думка, што прыйдзецца вяртацца назад у Малешы. Але, мабыць, тут спрацавала нейкае таемнае наканаванне; магчыма, што мой анёл-ахоўнік так устанавіў мне мае вандроўныя вектары. Прабіўся я праз тое хвіліннае бездарожжа і перада мною паявіўся паказальнічак — побач паказалася памятка ад Студзеньскага паўстання 1863 года. Калісь-калісь, значыць пару добрых гадоў таму, у Стрыках мне былі гаварылі, што недзе ў лесе, каля двух кіламетраў за вёскай, устаноўлены такі помнік і я ў нейкай няспешнай будучыні думаў туды падацца. А тут сам Лёс не цырымоніўся з маёй неканкрэтнасцю і сам падвёў мяне ў адпаведнае месца.

Тут, у невялікай аддаленасці ад сябе дзве брацкія магілы — на адной устаноўлены высокі драўляны лацінскі крыж, на другой такі ж візантыйскі. Абедзве кругавыя магілы абведзеныя невысокім драўляным плотам; дыяметры абедзвюх — каля пятнаццаці метраў. На адмысловым стэндзе сціплая інфармацыя пра падзею, пра смяротны бой. Пазней шукаў я ў кнігах больш дэталёвай інфармацыі пра тую бітву, але больш не ўдалося мне знайсці. Магчыма, што на нашай тэрыторыі больш такіх мала вядомых месцаў, бо ж Студзеньскае паўстанне праявілася, здаецца мне, з найбольшай сілай менавіта на паўднёвым Падляшшы і на Гродзеншчыне, а між імі таксама ж не было вакууму...

Тыя дзве брацкія магілы паказаліся мне такімі вядомымі з генетыкі двума храмасомамі: X і Y. І яны, тыя быццам храмасомы, спараджаюць чарговыя быццам храмасомы — чарговыя брацкія магілы. Такія, як у Занях. А памежжа — гэта суседскае суіснаванне, ад якога адмысловы плён. А плён такі, якія сейбіты...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Бельскі беларускі ліцэй

# Пачаткі ліцэя. Яраслаў Кастыцэвіч (ч.4)

Здаўшы ўступныя экзамены, я стаў вучнем бельскага Беларускага ліцэя 1 верасня 1952 года і правучыўся ў ім усе чатыры гады. Там і атрымаў, як кажуць, пуцёўку ў жыццё — атэстат сталасці. Колькі ж было радасці мне і маім бацькам, калі стала вядома, што я здаў экзамены і прыняты ў Ліцэй.

Памятаю, як бы сёння было гэта, як першы раз сабралі нас у школе, пасадзілі на калідоры і выйшлі да нас настаўнікі і дырэктар. Усе суровыя, непрыступныя і як бы незадаволеныя з нас — здавалася мне. Адзін з іх запытаў мяне, з якой я школы (пазней я даведаўся, што гэта Ільля Захаравіч Бэрнат). Я адказаў яму сядзячы. Ён загадаў мне ўстаць — і грозна адчытаў мяне за несубардынацыю. Мне было вельмі крыўдна, гатоў быў проста пад зямлю праваліцца, бо рабілася гэта на вачах усіх васьмікласнікаў, настаўнікаў і майго бацькі.

Астаўшыся самі, бацька пачаў пацяшаць мяне: «Ты не перажывай, такія заўсёды пачаткі, каб навесці дысцыпліну, а потым пойдзе як па масле». На практыцы аказалася, аднак, што да масла была яшчэ далёкая дарога.

Навука ў Ліцэі была нялёгкай. Веды нашы вынесены з пачатковых, пераважна вясковых школ (абсалютная большасць ліцэістаў была тады сялянскага паходжання) былі слабенькія. Гэта ж быў паваенны час. Цяжка было таксама дастасавацца да ўмоў гарадскога і самастойнага жыцця, далёка ад роднай вёскі і бацькоў. Адным словам, цяжка было нам і цяжка было з намі. Вялікай перашкодай былі пастаянныя матэрыяльныя нястачы. Школа, пераважна восьмыя класы (першыя класы ліцэя) былі моцна перапоўненыя. Свайго інтэрната школа не мела.

Дысцыпліна ў Ліцэі была суровая і трымаў яе ў асноўным дырэктар — старой даты педагог. Гэта ён быў усяму галава. Спазненняў, прагулаў, нават мінімальнай правіннасці ён не пераносіў — успрымаў іх проста як асабістую знявагу. Дысцыпліну і паслушэнства лічыў ён важнейшымі выхаваўчымі элементамі. З поўнай адказнасцю можна сказаць, што наш Ліцэй быў тады школай, у якой выхаваўчая сістэма дзейнічала згодна прынцыпу: за аднаго бітага двух нябітых даюць. І правільна, хоць у той час нам так не здавалася. І такой дысцыпліны, і стражнікаў яе мы не надта любілі і стараліся здалёк абмінаць іх, хоць не заўсёды нам удавалася гэта.

Асоба Яраслава Васільевіча адыграла немалую ролю і ў маім жыцці, і ў жыцці многіх дзяўчат і хлопцаў майго пакалення, і ўсёй нашай тутэйшай беларускай меншасці. Гэта між іншым яго заслуга, што па вайне паўстала ў нас беларускае школьніцтва, што былі адкрыты нашы беларускія ліцэі, якія мноства нашай моладзі вывелі ў людзі і далей выводзяць.

У той час адбывалася мноства розных мерапрыемстваў, у якіх павінны былі ўдзельнічаць і школы, тым больш наш Беларускі ліцэй, які меў вялікі хор, танцавальны калектыў і духавы аркестр. Але бадай не было такога мерапрыемства, урачыстага ці працоўнага, на якім не ўдзельнічаў бы сам дырэктар. Не зважаючы нават на тое, што працоўныя мерапрыемствы арганізаваліся пераважна ў вялікія праваслаўныя святы.

Наш дырэктар у твар і па прозвішчы ведаў усіх сваіх ліцэістаў. Не толькі перад дарослымі, якіх знаў мноства, але і перад кожным з нас, ліцэістаў, здалёк здымаў на вуліцы сваю шапку і першы вітаўся. Але Божа цябе ўпасі, калі ты не заўважыў дырэктара і культурненька не адкланяўся яму, тады ўжо трымайся, бо на бліжэйшай лінейцы (апэлі), якімі пачыналіся штодзённыя нашы заняткі, уся школа будзе мець з цябе пацеху. Напрыклад: „Вчера ученик восьмого класса «Б» (дырэктар наш гаварыў у асноўным па-руску) так был занят наблюдением за пьяницами около пивной, что даже не заметил своего директора!». Усе смяюцца, і я рагачу. Мне крыху шкада разявы з восьмага «Б», але ўсё-такі трэба пазнаваць свайго дырэктара — разумна разважаю я. І раптам, як гром з яснага неба, дырэктар называе маё прозвішча і імя і патрабуе стаць мне перад ягоным грозным аблічам і перад усім школьным калектывам. О, Божа, нават цяпер па ўсім целе дрыжыкі праходзяць. (Мы любілі такія дырэктарскія крытыкі, але калі яны не пра нас былі).

А некаторым нашым ліцэістам дасталася яшчэ горш, напрыклад: «Вчера вечером около Кармелитского костёла наш пьяный ученик валялся в снегу! Мое безобразие!..». У такім выпадку наш паважаны дырэктар ужо не гаварыў, а проста грымеў святым гневам. Нават калі і не выкінулі такога вучня са школы, так дастаў ён па вушах, што напэўна на ўсё сваё жыццё набавіўся агіды да гарэлкі і выпіўкі...

Я ўжо не памятаю, чым правініўся дзявяты жаночы клас і дырэктар ніяк не мог выкрыць вінаўнікаў, бо адны другіх пакрывалі. Таму саставіў цэлы клас пасля ўрокаў і сам доўга сядзеў з імі, інтэнсіўна навучаючы іх «что такое хорошо, а что такое плохо». Я пашкадаваў сваю сястру, купіў, занёс і перадаў ёй булачку...

Мы, дарастаючыя хлопцы, вельмі хацелі адгадоўваць модныя тады доўгія валасы, якія называлі «шавялюрамі». А Яраслаў Васільевіч не любіў такіх валасоў і не дапускаў на нашых галовах такіх прычосак,

працяг ☞ 11




Кнігі на беларускай мове ў беларускіх кнігарнях сустрэць можна было заўсёды. Праўда, іх колькасць нашматкроць меншая за колькасць кніг на рускай мове. Што ж тычыцца дзіцячай літаратуры, то беларускамоўную друкаваную прадукцыю ў Беларусі ўвогуле бывае цяжка знайсці. Цяперашнія беларускія ўлады, нягледзячы на апошняе крыху больш лагоднае стаўленне да беларушчыны, па-ранейшаму няздатныя да паслядоўнай палітыкі папулярызацыі беларускай мовы. Таму прапаганда беларускага слова ўсцяж трымаецца на асабістай і прыватнай ініцыятыве.

Адной з такіх ініцыятыў, якая ўжо даволі даўно афармілася ў выдавецтва і кнігарню, з'яўляюцца „Галіяфы" — незалежнае выдавецтва, заснаванае ў 2007 годзе. Мае яно сваю аднайменную кнігарню ў Мінску, а таксама інтэрнэт-краму **www.halijafy.by**. Рухавіком і дырэктарам „Галіяфаў" з'яўляецца паэт і мастак Зміцер Вішнёў. «Выдавецтва спецыялізуецца на выдаванні мастацкай літаратуры сучасных беларускіх аўтараў. Другі важны накірунак — дзіцячыя кнігі на беларускай мове. Акрамя таго, нам падабаецца займацца кнігамі па мастацтве і выданнямі, якія даследуюць з розных бакоў сучасную Беларусь. Кнігі „Галіяфаў" неаднаразова адзначаліся літаратурнымі прэміямі, у тым ліку двойчы прэміяй „Кніга году"», — распавядаецца на старонцы „Пра нас" на сайце вышэйзгаданай інтэрнэт-крамы. Там жа тлумачыцца даволі дзіўная назва: «Галіяфы — найбуйнейшыя ў свеце жукі, жывуць у Афрыцы. Назва выдавецтва паходзіць з „афрыканістычных" ідэяў культавага ў 90-я гады беларускага літаратурнага руху „Бум-Бам-Літ"».

Выява галоўнай старонкі сайта падаецца класічнай як для інтэрнэт-крамы. Стваральнікі сайта прадставілі на ёй амаль усе накірункі літаратуры, якой яны гандлююць. Цэнтральнае месца там аддадзена пад новыя кнігі. У той жа час „Галіяфы" паказваюць нам, што найбольш папулярнае ў іх пакупнікоў, а таксама на якія кнігі звяртае ўвагу ўласна кнігарня.

На сайце процьма рубрык. Выйсці на іх месцяцца як уверсе цэлага выяўлення, так і з левага боку. Таксама ўверсе ёсць рухомая стужка, дзе знаходзяцца выйсці на літаратурныя раздзелы. Каб доўга не блукаць па сайце, шукаючы, напрыклад, выданні аб Беларусі і яе рэчаіснасці, „пракруціўшы" стужку, можна ўбачыць назоў „Кнігі пра сучасную Беларусь".

Сярод іншых раздзелаў інтэрнэт-крамы: „Кнігі-лаўрэаты прэмій", „Проза", „Дзеткам", „Прыгожыя кнігі", „Ідэі падарункаў", „Гісторыя", „Кнігі, якія не даюць нам спакою: мастрыд" і так далей.

Тыя ж самыя кнігі, канешне ж, ёсць і ў „Галіяфаўскай" кнігарні, пра якую згадвалася вышэй. Для наведвальнікаў Мінска, магчыма, будзе цікава зазірнуць у яе, каб не толькі віртуальна, але і ў рэчаіснасці пазнаёміцца з дзейнасцю гэтых кнігавыдаўцоў. Знаходзіцца яна на гістарычным Траецкім прадмесці і адчынілася літаральна год таму. «Гэта будзе месца, дзе не толькі можна набыць кніжку, але і прыйсці, і пагартаць яе, пачытаць, пасядзець за столікам з сябрам, паслухаць літаратара, сустрэцца з крытыкам ці мастаком. Гэта месца для творчых сустрэч», — казаў напярэдадні адкрыцця кнігарні Зміцер Вішнёў, якога цытуе партал Tut.by.

❖Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара

Аўтар гімна «Магутны Божа»



# 130 гадоў з дня нараджэння Міколы Равенскага

Беларускі кампазітар і фалькларыст Мікола Равенскі нарадзіўся 5 снежня 1886 г. у маёнтку Капланцы (цяперашні Чэрвеньскі раён), дзе ягоны бацька працаваў садоўнікам. Музычная адукацыя давалася яму паступова, этапамі. У 1895-1903 гг. вучыўся ў менскім архірэйскім хоры, дзе атрымаў пачатковую музычную адукацыю. У 1903 г. накіраваны ў Менскі мужчынскі манастыр як дырыжор тамтэйшага хору. У 1905 г. пераехаў у Навагрудак, дзе працаваў дырыжорам царкоўнага хору і выкладаў музыку ў школах. У 1912-1914 гг. прайшоў курсы рэгента царкоўнага хору ў Маскве. У 1920 г. стаў працаваць кіраўніком хору пры Беларускім работніцкім клубе ў Менску. Тады з'явіліся ягоныя першыя песні на вершы Максіма Багдановіча („Не кувай ты, шэрая зязюля", „Завіруха", „Слуцкія ткачыхі"), Канстанцыі Буйло („Люблю наш край", „Каб я крылле мела", „Я шукала"), сюіта „Курган", уступ да паэмы „Гапон" Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, песня „Ах ты, Нёманрака" на словы Цішкі Гартнага. Акрамя арыгінальнай музыкі, Равенскі пісаў гарманізацыі на свае мелодыі („Чаму ж мне не пець", „Адвеку мы спалі"). У 1922 г. у Менску выйшаў друкам амаль увесь тагачасны ягоны рэпертуар — „Зборнік песьняў з нотамі". Пасля забароны дзейнасці эсэраў Равенскі на нейкі час перайшоў на працу хормайстра ў Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр. Пісаў музыку да аперэты „Залёты" (на лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча).

У 1923 г. Равенскі выехаў у Маскву па адукацыю, там пражыў сем гадоў, закончыўшы музычны тэхнікум пры кансерваторыі (1927) і кампазітарскі аддзел кансерваторыі (1930). Лёс сутыкнуў яго там з выдатным паэтам Уладзімірам Дубоўкам. Уплыў Дубоўкі на фармаванне Равенскага быў надзвычай моцны. У Маскве Равенскі шмат кампанаваў (22 фугі, кантата для хору з аркестрам, прэлюдыя для фартэпіяна). Песенныя кампазіцыі пісаў на словы Дубоўкі („О Беларусь, мая шыпшына", „Такая ноч") і Я. Купалы („У вырай"). Пад уплывам Дубоўкі звярнуўся да музычнае крытыкі і напісаў два крытычныя артыкулы ва „Узвышша". Скампанаваў оперу „Браніслава" на лібрэта Дубоўкі (не захавалася).

У 1930-я гады Равенскаму нейкім цудам удалося пазбегчы лёсу беларускай творчай інтэлігенцыі: ён застаўся на волі, хоць ягоная кампазіцыя „Ліпнёвы гімн" на словы Дубоўкі партыйнымі прыганятымі акрэсленая як „нацдэмаўская". М. Равенскі працаваў выкладчыкам у музычным тэхнікуме ў Менску, потым у кансерваторыі. У 1940 г. пераехаў у Магілёў, у 1941 г. зноў вярнуўся ў Менск. У дзень пасля выбуху нямецка-савецкай вайны ў пажары згінулі ўсе ягоныя рукапісныя і надрукаваныя творы.

З 1943 г. Равенскі працаваў рэгентам царкоўнага хору ў Чэрвені, дзе кампанаваў музыку да малітваў. Тут таксама паўторна напісаў два акты аперэты „Залёты". У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Працаваў настаўнікам спеваў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе і ў Беларускай гімназіі ў Остэргофене. У Нямеччыне скампанаваў наступныя свае выдатныя творы: „Беларускую фантазію" для скрыпкі і фартэпіяна, раманс „Ноч над Менскам" на словы Дубоўкі, царкоўны гімн „Магутны Божа" на словы Н. Арсенневай. У 1950 г. пераехаў у Лювэн у Бельгіі, дзе арганізавалася актыўнае беларускае студэнцкае асяроддзе. Арганізаваў студэнцкую вакальную групу, выступаў з ёю ў Бельгіі, Францыі і Нямеччыне, запісаў грамафонныя кружэлкі з беларускімі свецкімі і рэлігійнымі песнямі. Памёр 9 сакавіка 1953 г. у Лювэне.

❖Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Пазітыўна перавязаныя

**Падрыхтаваўшы аснову — ніткі даўжынёй вясковага стала, абавязкова прывязацца. Ткачыха перавязваецца сатканым раней поясам. Пояс-маці дае пачатак прывязанай да яго, быццам пупавінай, аснове паясочка-дзіцяці. Другі яго канец прывязаны да нагі стала. Стол у часах нашых дзядоў быў святасцю. На яго клалі перахрышчаны, пацалаваны хлеб.**



Так паўставалі святыя, быццам хлеб, паясы. Завязвалі іх на калодзежы, каб вада была заўсёды чыстай, клалі на хлебную печку, каб ежа смачнай варылася, абвязвалі немаўлят, каб прыгожымі выраслі. Сямігадовыя дочкі рыхтавалі мамам аснову. Ткалі на заказ з дзяцінства да самой смерці. Скончыліся заказы, скончыліся і паясы. У вёсках на поўнач ад Саколкі ў некаторых хатах збераглюцца яшчэ нават па тры, чатыры старыя паясы. Тамтэйшыя сямейныя святыні ў музей не аддаюць. Трымаюць іх у адным, спецыяльным месцы і вымаюць толькі раз у год. У вёсках на поўдзень ад Саколкі даўно іх павыкідалі, спалілі ў печках.

Эдыта Глова — працаўніца Музея Сакольскай зямлі пра паясы ніколі не чула, хаця адзін ляжаў у бабуліным сундуку у адной з вёсак пад Янавам. Падарак маме ад свёкры. Мама абвязвала ім празьмо — букет на асвячэнне ў гонар Маткі Боскай Зельнай. Не знайшоўся ніхто, хто змог бы ёй паказаць, як выткаць такі пояс. Бывае, трымаюць яшчэ распачатую і незакончаную аснову, ведаюць як яе заснаваць, але працэсу падбору нітак ужо не асацыююць. Адзінай надзеяй аказаліся беларускія сайты.

За паясы Эдыта Глова ўзялася вельмі сур'ёзна. Цяпер яна стыпендыятка Маршалкоўскай управы ў галіне мастацкай творчасці, папулярызацыі культуры і аховы памятак. Да 15 снежня ў сакольскім музеі працуе выстаўка паясоў — вынік яе даследчыцкай працы. У рамках той жа стыпендыі арганізуе таксама ткацкія майстар-класы. З нейкага часу адбываюцца яны ў Крынках па ініцыятыве мясцовай школьнай бібліятэкі.



Ткацтва гэта сапраўдны выклік, барацьба са слабасцямі, асабліва вучням малодшых класаў. Шмат хто здаўся ўжо на самым пачатку. Дасягнуць мэту дапамагла гатоўнасць да супрацоўніцтва, узаемнай падтрымкі, дапамогі. Хлопцы — дзяўчатам, старэйшыя — малодшым, больш стабільныя эмацыянальна — траўматызаваным. Самае цікавае, што хлопцы спраўляліся не горш за дзяўчат. Гістарычная, пераломная хвіліна. Цікава, колькі дзесяцігоддзяў прайшло з моманту, калі апошні раз у Крынках нехта перавязаўся поясам. Толькі адна Дамініка з другога класа бачыла сапраўдны пояс у сваёй бабулі ў Случанцы. Абяцала прывезці яго, каб паказаць іншым.

Бібліятэчнымі заняткамі пацікавілася таксама школьная возьна Галіна Яцэвіч. На беларускай мове распавяла вучням пра родныя, кнышэвіцкія паясы. Як тут гаварыць па-польску пра падбор нітак, калі падбірала іх толькі па-беларуску.

У Кнышэвічах паясамі мужчыны падвязвалі святочныя кашулі, а жанчыны — ручнікі на іконах. Перад шлюбам маладая дарыла паясы сватам, а гэтыя перавязваліся імі ў час вяселля. У аповедах спадарыні Галіны гучала прыгожасць і спрадвечны парадак, якія быццам паясы спавівалі тадышняе жыццё.



Удзельнікі бібліятэчнай майстэрні вельмі ганарыліся сваімі першымі ўласнаручна сатканымі паясамі, верачы, што прынясуць ім шчасце і добрыя ацэнкі.

❖**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

10 ☞ працяг

няшчадна ганяючы нас да цырульніка. Мяне, аднойчы, пасылаў да цырульніка тры разы ў адным дні. За кожным паваротам абавязкова трэба было явіцца на праверку да яго, а валасы ўбачыўшы дырэктара ад страху становяцца дыбам — і зноў да цырульніка. За трэцім разам, хоць і пастрыглі мяне зусім бясплатна, паявіўся я прыбіты горам перад ім, а галава мая як булавенька. Замест пышнай шавялюры, толькі купка кароценькіх валаскоў на самай макушцы: частка направа, частка налева, з разборачкамі, значыць. Я чуць не плачу ад крыўды і жалю, а дырэктар проста не налюбуецца маім выглядам, кажа павярнуцца налева, направа і з усіх бакоў, паводле яго, я нарэшце выглядаў так як трэба. Я яшчэ раз паўтараю, што не толькі са мной былі такія прыключэнні, а з многімі намі...

❖**Васіль САКОЎСКІ**

## Адгаданка

1. вайсковае злучэнне або вытворчая група, 2. спіртны напой настоены на ягадах або травах, 3. брытанская сталіца, 4. агульная тэорыя адукацыі і навучання, 5. Пітэр Пауль, нідэрландскі жывапісец (1577-1640), 6. грашовае выражэнне вартасці тавару, 7. чэшская сталіца, 8. установа з клоўнамі, 9. абсалютная пустата.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | | | | | | 2 |
| | | | 3 | | 4 | | | | | |
| | | | 5 | 6 | | 7 | | | | |
| | | | | | | | | 8 | | |
| | | | | | | | | | 9 | |

**Адказ на адгаданку з 47 нумара**
Алмаз, валун, джын, Ева, замша, пяць.
Рашэнне: **Адным пальцам вузла не завяжаш**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва — тыднёвік беларусаў у Польшчы
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

## 11.12 — 17.12

**(22.03. — 20.04.)** Поспехі і дасягненні, трывалыя і прыбытковыя. Будзеш мець саюзнікаў. Калі шукаеш любові, сустрэнеш кагосьці блізкага да ідэалу, але сварлівага. Трымай язык за зубамі, таксама ў інтэрнэце. 11.12. можа наступіць магутны прыліў грошай! Пі раніцай шклянку цёплай вады з мёдам і лімонам.

**(21.04. — 21.05.)** Засталося табе аформіць яшчэ многа нялёгкіх і працяглых спраў. Абдумай усе «за» і «супраць». У спрэчках асмелься выказаць свае патрэбы і спадзяванні. 12-15.12. пераканаешся, што цябе выкарыстоўваюць. Даведаешся, на што можаш сам разлічваць. Здзейсні чыюсь мару. Абмяжуй спажыванне тлушчаў і салодкага.

**(22.05. — 22.06.)** Паладзіш справы і адносіны. Мусіш узяць на сябе адказнасць у пачуццях. Блізнюк з трэцяй дэкады можа рашыцца на шлюб. Зацікаўся больш сваёй працай ці вучобай, замест гуляць па сеціве. 11-12.12. можаш атрымаць падарунак (спадчыну, кампенсацыю, вяртанне даўгу). Здабывай новыя ўмеласці — запішыся, напрыклад, на моўныя ці іншыя курсы. Падлячы свае зубы.

**(23.06. — 23.07.)** Не азірайся назад, вызначай новыя мэты, лаві нагоды. Наладзіш важныя знаёмствы, ад якіх будзе залежаць тваё жыццё! Пераканаешся, што варта дбаць аб сваю форму. На працы не бяры вольнага — а раптам спатрэбішся ў вельмі важнай справе; не адмаўляйся — справішся і атрымаеш вялікую прэмію. Схадзі да артапеда.

**(24.07. — 23.08.)** Сімпатыя і прызнанне. Але 12-14.12. хтосьці зайздросны схоча папсаваць табе лады ў пары. А калі ты адзінокі, пашукай сабе знаёмстваў... на вуліцы ці ў спартзале. Будзеш у цэнтры кампанейскага жыцця. Але бярыся за кожную працу, таксама і фізічную; ідэальны час для інвеставання — з 13.12. (аж да 30.12.).

**(24.08. — 23.09.)** Наробішся! Трэба будзе змагацца з канкурэнцыяй і матэрыяй! Справішся з хаосам, усё сарганізуеш, не адмаўляйся дапамагчы камусьці. Сярод радні старайся адвярнуць увагу ад спрэчных спраў. Хутка справішся з навукай і новымі праграмамі, таксам камп'ютарнымі. Падумай аб добрай інвестыцыі. Магчымыя непаразуменні з партнёрам 12-14.12.

**(24.09. — 23.10.)** 12-14.12. пільнуйся, каб у табе не расчараваліся. Аформіш самыя складаныя справы, вынік гэтага задзівіць нават цябе самога. Будзеш мець шчасце ва ўсялякіх мерапрыемствах, будзеш вырашаць хутка і трапна. Менш еж, больш варушыся.

**(24.10. — 22.11.)** Выкарыстаеш спрыяльныя вятры, будзеш цешыцца тым што маеш. Рацыянальна і талкова. Можа быць нават крыху нуднавата, але не забаўляйся ў раманы і флірты. Стаў на кантакты твар у твар. На працы можаш правесці змены, крэатыўна і па-новаму. Калі маеш свой бізнес, чакаюць цябе вельмі карысныя заказы. Не сядай цяпер на вострую дыету, патрэбная будзе табе здаровая мацата.

**(23.11. — 22.12.)** 10-14.12. паявяцца новыя задумы на вырашэнне праблем. Вельмі ўдалы час! Самаўпэўненасць, энергія, жыццярадаснасць, аптымізм, здароўе (асцярожна на лыжах!). Палепшыцца і ў адносінах. Прыслухоўвайся, аб чым шэпчуцца ў фірме. Народжаным у апошнюю дэкаду ўдасца вырашыць адну старую праблему; можа, пагасіш усе даўгі і выйдзеш на просты шлях?

**(23.12. — 20.01.)** Пакуль што не выхільвайся, не выходзь з новымі прапановамі, бо шмат што могуць табе тарпедаваць. Неўзабаве (пасля 21.12.) будзе лепш. Усё ж знойдзеш падставу для маленькіх радасцей і палёгкі. Не пераборшчвай — не шукай у мілай кампаніі ворагаў! Калі шукаеш новую працу, чакаюць цябе мілыя весткі; не сумнявайся калі трэба будзе выкасіць канкурэнцыю! Ты будзеш найлепшы!

**(21.01. — 19.02.)** Добрае здароўе і неблагі настрой. Самаўпэўненасць і энтузіязм прыцягнуць да цябе добры занятак і людзей. Рамантычныя і дзелавыя сустрэчы (можаш карысна пазнаёміцца з уплывовымі персонамі). Бяры работу, якая толькі паявіцца — стане табе энергіі і арганізаванасці. Руш таксама на свежае паветра.

**(20.02. — 21.03.)** 10-12.12. барані Бог не спазніся на працу ці ў школу! Пазбегнеш канфліктаў і няладных сітуацый. Добры настрой цябе не пакіне. Заданні раздзялі паміж хатнімі, хопіць самому ўсё рабіць! Плануй на наступны год, адпачываючы пад пледам і з кубкам гарачай какавы. Калі будзе цябе штосьці турбаваць са здароўем, не шукай парады ў інтэрнэце, спакойна і без страху схадзі да лекара.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (64)

У Невіры я пачула гісторыю пра паляка Франка, якога забрала рака. Хлапец праходзіў кладкай цераз прытоку, пахіснуўся і патануў. Загінуў гвалтоўна і нечакана, быццам сама рака працягнула рукі па маладое жыццё як належную сабе даніну. Месца па сённяшні дзень узбуджае святы перапалох і завецца *Франкавы масток*.

— Ці людзі нешта рабілі каб уласкавіць раку? Ці маліліся, каб прадухіліць нечаканую смерць у час паводкі або калі перапраўляліся вадзяным шляхам?

— А як жа! — кажа 90-гадовая баба Іра. — Кожная сям'я складала *оброка*.

Архаічны абрад *оброка*, інакш ахвяраванне, быў паўсюднай практыкай яшчэ ў міжваенныя гады. Складалі яго ў апошні тыдзень Вялікага посту, дакладна ў Вялікую пятніцу. У якасці дароў, якія мелі паспрыяць кантактам з небам, людзі прыносілі саматканае палатно, ручнікі, абрусы. Высцілалі іх проста на плашчаніцу, выстаўленую на сярэдзіну царквы. Грамада моўчкі ацэньвала якасць падарунку.

Як успамінае баба Іра, у царкву заўсёды прыносілі самыя прыгожыя, далікатныя, выбеленыя на сонцы палоскі тканіны, часта прыаздобленыя пераборамі, карункамі, вышыванкай. Задачай тканіны было задаволіць святых, наклікаць іх прыхільнасць і апеку на надыходзячы год для сям'і ды гаспадаркі. Ну, каб ніхто не ўтапіўся ў час паводкі, каб не трапіў па-п'янаму ў *драглі**, каб не ступіў голай нагой на ядавітую гадзюку, каб каровы вярталіся спакойна дамоў з папасу і каб усё было добра...

Ільняная даніна забяспечвала яшчэ матэрыяльны бок парафіі. Пасля Вялікадня палатно адразу скуплялі яўрэі і па Прыпяці дастаўлялі яго на рынак у Пінск. Адтуль невірскія саматканыя палотны патраплялі ў навакольны гарады і мястэчкі, а нават у Польшчу і цэлую Еўропу.

* * *

З бабай Ірай пазнаёміла мяне дырэктар Раіса Крат. У яе старэнькай, пазбаўленай камфорту драўлянай хаце, прывітаў плач немаўляці. З-за прыадкрытых дзвярэй выглянула дзяўчына, якая напамінала жоўта-малочны дзьмухавец. Гэта была маці дзіцятка, жонка ўнука бабы Іры. Сам унук паехаў у Луцк, каб канчаткова аформіць візу на паездку ў Польшчу. Спадзяваўся падзарабіць які грош на жыццё.

Баба Іра драмала сабе ў алькерыку, памаляваным на блакітны колер. У набрынялай цішыні назойліва бзыкалі мухі. Спадарыня Крат без лішняй цырымоніі разбудзіла старэчу. Каб годна прыняць госця, гаспадыня спачатку надзела на галаву квяцістую хустку, падпасаваную пад ружова-чырвоны колер кофтачкі.

— Раскажыце, бабко, як вы свайго чалавека прычаравалі? — прасіла спадарыня Крат. Я яшчэ не ведала, што пачуты аповед вернецца да мяне ў выглядзе начнога кашмару. Спачатку ашаламіла мяне звестка пра чорную кнігу. Баба Іра заглянула ў яе з дурной цікавасці, дзеля кампаніі. Разам з дваюраднай сястрой вычыталі спосаб, як зачараваць хлапца. Метад здаваўся просты. Дзеля гэтага хапіла наскрэбці шкуры з пяты і падсыпаць яе ў чай або гарэлку, падрыхтаваныя для кавалера. Каб чарадзейнае пітво спрацавала, трэба было яшчэ дасыпаць адзін мінерал, пра які тактоўна замаўчым у гэтым месцы. Кожны фальшывы рух, мінімальная недакладнасць, спынялі магічны працэс і спадзяванні на шчаслівую будучыню. Ды сама баба Іра забылася, ці дзеўцы раілі скрэбці левую, ці можа правую падэшву.

Пачуты расказ вельмі мне спадабаўся, ён здаваўся чыстай насмешкай з маёй інтэлігенцыі. Таму я спытала адкуль з'явілася чорная кніга ў Невіры.

— З Аргенціны! Прывёз яе адтуль мой дзядзька, брат бацькі, які паехаў туды за працай, а пасля гадоў вярнуўся на радзіму. А там была дзяўчына ў маім узросце, дык мы адночы дарваліся да тае кнігі. З дурной цікавасці, — дабавіла з вясёласцю баба Іра.



Злева: Раіса Крат з бабай Ірай



Нідзе ў свеце я не сустрэла такой абыякавасці для чорнай кнігі. Звычайна наклікае яна дзеравяны жах, спалох, хворыя нервы. Не менш уразіла звестка, што кніжка прывезеная з Аргенціны была напісана па-польску. Праз гэта загадка здавалася яшчэ больш складанай і пустой у сярэдзіне. У гэтым месцы неабходна дадаць, што палешукі не вераць у чары, спісаныя на паперы.

* * *

Намнога большую дозу магіі прапанавалі невірскія вышыванкі, сабраныя ў школьным этнаграфічным куточку. Узоры напаміналі таемныя тунэлі з засакрэчанай сімволікай. Уражвала крэатыўнасць чырвонага колеру. У Невіры ўмелі спалучыць чырвань з любым, нават самым кантрасным колерам. Штосьці падобнае маглі вычараваць толькі італьянскія жывапісцы часоў рэнесансу. Я сама не магла адарваць зроку ад дзівоснасці ўзораў, дзе васьмікутная зорка ў цёмназялёны колер пераклікалася з бэзавымі, фіялетавымі, сінімі, белымі, чырвонымі і чорнымі ромбамі, квадратамі і таемнымі знакамі, якія раз напаміналі птушыныя сляды на снезе, іншы раз жылкаванне ў лісці лясных дрэў. У іх знаходзіліся закадзіраваныя камунікаты на пладавітасць, поспех, каханне. Апрача магічных прыкмет вышыванка праяўляла характар аўтара. Яна паказвала эстэтычны смак, тэмперамент. Гэта было адначасова пасведчанне здольнасці і своеасаблівы пашпарт вясковай жанчыны. Часам вышыванку ставілі ў якасці цвёрдага і фатальнага доказу.

— У час вайны ў Невір прыходзілі ўсякія бульбашы і бандэраўцы, яны забіралі харчы і грабілі вопратку з куфраў, — прыводзіць у прыклад спадарыня Крат. — Пасля, калі яны начавалі па розных хатах і хутарах, абдароўвалі вопраткай сваіх дзяўчат. Яшчэ доўга пасля вайны людзі распазнавалі свае кашулі і спадніцы ў іншых мясцовасцях або на гарадскім рынку. Хтось вярнуўся з Каменя і гаварыў: — *Сёння бачыў тваю кашулю на такой і такой людзіне*. Пры тым, тая *людзіна* звычайна паходзіла з недалёкага суседства. Зрабаваная вышыванка магла спрычыніцца да перамены лёсу, наклікаць гора, смерць. Хапіла данесці ў сельсавет. Сем'і абдараваныя крадзенай вопраткай перасялялі ў Сібір за супрацоўніцтва з падполлем.

* * *

Пад канец сустрэчы, калі ўжо мы перагаварылі ўсе тэмы, дзевяностагадовая баба Іра прыгадала рэцэпт як зачараваць мужыка. Я была другой на свеце асобай, якая пачула старажытную тайну, якую, мабыць, тутэйшыя жанчыны захоўвалі ад часоў Герадота. Яе асаблівасць заключалася ў пераемнасці сакрэту. Параду атрымала ад старэйшай удавы з суседніх Вэтлаў, у рамках удзячнасці. Раней баба Іра шмат гадоў дапамагала пракарміць удовіны сіроты. Дзялілася з імі мукой, бульбай, салам. Часам дарыла нейкія грашакі, каб купіць адзенне дзеткам. Яна сама, хоць працавала ў прэстыжнай канторы — скупляла ад людзей чарніцы і грыбы, лічыла сябе няшчаснай і пакрыўджанай лёсам. Мала што пакінуў яе каханы хлапец, дык яшчэ засталася з пазашлюбным дзіцяткам на руках. У патрыярхальным сяле, такім як Невір, не было ўжо шанцаў на нармальнае замужжа. Аднойчы, калі разам з удавой капалі бульбу, жанчына папрасіла яе ўвагі, узяла за руку і сказала: — *Шкада тваіх маладых гадоў, галубка!*

Магчыма, яна аддала сваю параду, атрыманую ад *вядушчай* асобы. Удава параіла каб прыдбаць латку ільнянога палаценца з дамавіны нежанатага кавалера. Гэты кусочак тканіны трэба было спаліць з іншымі рэквізітамі (прынцыпова іх не назавем) на люстэрку, выстаўленым насупраць сонца роўна ў поўдзень. Атрыманы попел, разам з закляццем (якое тактоўна замаўчым у гэтым месцы), трэба было засыпаць у кілішак намечанага кавалера. Баба Іра дадала, што пры выкананні магічных задач дапамагалі ёй жанчыны з сям'і. *Зробленае* пачало дзейнічаць ужо пасля некалькіх дзён. На дзіва, кавалер, якога прычаравала баба Іра, быў ідэйным камсамольцам. Прыслалі яго ў Невір працаваць трактарыстам. Спачатку ён хадзіў да іншай дзяўчыны.

— А пасля *зробленага* ён змяніўся, вось адвядзе тую дзеўку з клуба дамоў і да мяне прыходзіў, на снеданне, — успамінае з радасцю старэча. Дзякуючы, парадзе добрай удавы, пасмакавала шчаслівага сужонства, нажыла дзяцей і ўнукаў.

Адчувалася, што шчасце бабы Іры адобрылі ўсе людзі ў сяле, а ўжо найбольш прычараваны ёю трактарыст-камсамолец.

Што тут дадаць — сам Герадот пазайздросціў бы мне апошняй гісторыі!

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

* Драглі — дрыгва, балота, якое ўсмоктвае ў нетры ахвяр, сярод якіх найчасцей пападаюць дзікія кабаны, алені, ласі. Час ад часу ў дрыгве гінуць людзі, як верыць палешукі, у гэтыя месцы будучых самагубцаў зводзяць нячыстыя сілы, найчасцей пасля шматдзённай п'янкі.

ISSN 0546-1960